Г. Л. Мураўёва, М. А. Урбан

# МАТЭМАТЫКА

Вучэбны дапаможнік для **3** класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 1

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2013

УДК 51(075.2=161.1)
ББК 22.1я71
М91

Р э ц э н з е н т ы:

дацэнт кафедры дашкольнай і пачатковай адукацыі ўстановы адукацыі «Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П. М. Машэрава», канд. пед. навук, дац. *З. К. Ляўчук*;
метадычнае аб'яднанне настаўнікаў пачатковых класаў дзяржаўнай установы адукацыі «Сярэдняя школа № 137 г. Мінска» (нам. дырэктара па вучэбнай рабоце *А. С. Ціханчук*)

**Умоўныя абазначэнні:**

 — новы матэрыял;

 — паўтарэнне вывучанага;

 — дружныя задачы;

 — заданне на кемлівасць;

 — адкажы на пытанне, выканай заданне;

 — выканай дома;



— прачытай у раздзеле «Гэта цікава!»

**ISBN 978-985-559-227-4 (ч. 1)**
**ISBN 978-985-559-226-7**

# Змест







## Паўтарэнне

**1.** Назаві аднязначныя лікі. Колькі іх? Назаві найменшы аднязначны лік, найбольшы аднязначны лік.

**2.** Прывядзі прыклады двухзначных лікаў. Назаві лічбы, якія выкарыстоўваюцца для запісу гэтых лікаў. Назаві найбольшы і найменшы двухзначныя лікі.

**3.** Назаві і запішы лікі ў парадку нарастання ад 14 да 18, ад 47 да 52, ад 93 да 99.



1. У ліку 58 пяць дзясяткаў і восем адзінак.

58 = 5 дзяс. 8 адз.

2. Лікі 50 і 8 — разрадныя лікі.
3. Сума лікаў 50 і 8 — сума разрадных складаемых ліку 58.

58 = 50 + 8

**4.** Запішы лікі. Колькі дзясяткаў? Колькі адзінак? Запішы лікі ў выглядзе сумы разрадных складаемых.



Дзяс. Адз.



Дзяс. Адз.



Дзяс. Адз.



Дзяс. Адз.

**5.** Напішы лікі лічбамі.

пяцьдзясят адзін | сорак | шэсцьдзясят восем

дваццаць два | сто | трыццаць дзевяць

**6.** Устаў прапушчаныя лікі.

$3 + 4 - 5 = ?$ $\quad 10 + 6 - 6 = ?$ $\quad 12 + ? = 15$

$4 - 3 + 9 = ?$ $\quad 9 - 7 - 1 = ?$ $\quad 20 - ? = 9$

$10 + 3 + 2 = ?$ $\quad 10 - 10 + 1 = ?$ $\quad ? - 8 = 7$

**7.** Тата на 8 гадоў старэйшы за маму. Маме 30 гадоў. Колькі гадоў тату?

**8.** Складзі задачу, адваротную дадзенай.
Калі з залы выйшла 23 вучні, у ёй засталося 43 вучні. Колькі вучняў было ў зале?

**9.** Начарці тры прамыя так, каб яны перасякаліся:
- у адным пункце;
- у двух пунктах;
- у трох пунктах.


Назаві разрадныя складаемыя лікаў: 40, 58, 77.


**1.** Запішы лікі, у якіх:

3 дзяс. 4 адз. | 5 дзяс. 7 адз. | 2 дзяс. 9 адз. | 6 дзяс.

**2.** Калі ў бочку налілі 14 л вады, у ёй стала 50 л вады. Колькі літраў вады было ў бочцы?

**1.** Вылічы і растлумач.

47 + 3 → 40 ?

64 + 28 → ? 8

88 – 45 → ? 8, 40 ?

43 – 25 → 20 ?



Прачытай роўнасць 12 + 15 = 27, выкарыстоўваючы словы: дадаць, плюс, павялічыць, сума.

**2.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 24 + 52 | 28 + 47 | 49 + 24 |
| 37 + 53 | 60 + 39 | 32 + 68 |



Прачытай роўнасць 69 – 24 = 45, выкарыстоўваючы словы: адняць, мінус, паменшыць, рознасць.

**3.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 88 – 46 | 42 – 37 | 100 – 55 |
| 70 – 38 | 54 – 49 | 100 – 92 |

**4.** Параўнай.

| | | |
|---|---|---|
| 60 + 16 ? 70 | 46 ? 50 – 6 | 50 – 27 ? 33 |
| 66 + 24 ? 80 | 43 ? 36 + 7 | 75 – 50 ? 20 |

**5.** У вагоне было 25 пасажыраў. Увайшло 17 пасажыраў, а выйшла 11. Колькі пасажыраў стала ў вагоне?

**6.** На колькі гадоў Таня старэйшая за Івана, калі Івану 8 гадоў, Тані 13 гадоў, а Пецю 9 гадоў?

**7.** Знайдзі даўжыню ломанай.



**8.** Назаві фігуры, у якіх перыметр роўны даўжыні ломанай з задання 7.



**9.** Кожны дарослы вядзе за руку дваіх дзяцей. Колькі дзяцей ідзе на прагулку, калі дарослых 5 чалавек?

**?** Як да 54 дадаць 37? Як ад 54 адняць 37?



**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

| | | |
|---|---|---|
| 63 – 29 | 75 + 15 – 7 | 25 + 74 – 47 |
| 34 + 66 | 19 – 13 + 94 | 100 – 55 + 45 |

**2.** У магазіне было 34 пакупнікі. Спачатку выйшла 15 пакупнікоў, а потым зайшло 7 пакупнікоў. Колькі пакупнікоў стала ў магазіне?

**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.

23 + 62　　25 + 18　　36 + 20 + 44
77 + 13　　73 + 27　　57 + 18 + 25



Разважай так:
Пішу дзясяткі пад дзясяткамі, адзінкі пад адзінкамі.
Складваю адзінкі...
Складваю дзясяткі...
Чытаю адказ...

**2.** Запішы ў слупок. Вылічы.

59 – 36　　81 – 34　　100 – 61
70 – 44　　62 – 58　　100 – 94



Разважай так:
Пішу дзясяткі пад дзясяткамі, адзінкі пад адзінкамі.
Аднімаю адзінкі...
Аднімаю дзясяткі...
Чытаю адказ...

**3.** Знайдзі значэнні выразаў.

62 – 35 + 16　　47 + 30 – 54　　100 – 16 – 7

**4.** Параўнай.

4 дм ? 15 см　　6 дм 8 см ? 68 см
71 см ? 7 дм　　9 дм 1 см ? 90 см
9 дм ? 2 м　　4 дм 6 см ? 1 м

**5.** Якіх фігур больш — трохвугольнікаў ці чатырохвугольнікаў? На колькі больш?



**6.** Выберы схему. Рашы задачу.
Пяць трэцякласнікаў узялі ў бібліятэцы 7 кніг, а часопісаў — на 4 больш. Колькі ўсяго кніг і часопісаў узялі трэцякласнікі ў бібліятэцы?










**7.** Складзі і рашы задачу.

Было — 38 … і 27 … .
Паехала — 15
Засталося — ?



**8.** Для якіх месяцаў, што ідуць адзін за адным, роўнасці правільныя?

2 месяцы = 61 дзень

2 месяцы = 59 дзён

Як скласці ў слупок лікі 48 і 15?
Як адняць у слупок 15 ад 48?



**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 21 + 58 | 75 + 25 | 70 – 48 |
| 28 + 53 | 56 – 32 | 72 – 45 |

**2.** У баку машыны было 45 л бензіну. Для паездкі ад дома да возера зрасходавалі 12 л бензіну, а для таго, каб вярнуцца дадому, зрасходавалі столькі ж літраў бензіну. Колькі літраў бензіну засталося ў баку?

**1.** Вылічы. Выканай праверку.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 46 + 28 | 23 + 49 | 62 + 31 | 28 + 45 |
| 38 + 43 | 57 + 19 | 15 + 64 | 5 + 16 |



Складанне можна праверыць адніманнем.
Для праверкі ад сумы аднімаем адно складаемае.
Павінна атрымацца другое складаемае.

**2.** Выпішы правільныя роўнасці.

25 + 12   13 < 40   50 – 25 – 25 = 1

15 + 85 = 100   99 – 99   100 – 60 + 2 = 42

**3.** Устаў прапушчаныя лікі так, каб роўнасці былі правільныя.

| | | |
|---|---|---|
| 78 + ? = 84 | 65 – ? = 39 | 11 = 34 – ? |
| ? + 42 = 74 | ? – 56 = 28 | 68 = 39 + ? |
| 52 = ? + 13 | 65 = ? – 9 | 100 = ? + 27 |

**4.** Вылічы.

| | |
|---|---|
| 1 дм + 2 см | 32 см + 4 дм 1 см – 5 дм 9 см |
| 5 см + 2 дм | 3 дм 8 см + 20 см – 1 дм 6 см |
| 1 дм + 9 дм | 5 дм 2 см – 37 см + 2 дм 5 см |
| 5 дм + 50 см | 4 дм 5 см + 5 дм 3 см – 8 дм |

**5.** Для будаўніцтва дома купілі цэмент у мяшках. Калі зрасходавалі 26 мяшкоў цэменту, засталося 15 мяшкоў. Колькі мяшкоў цэменту купілі?

**6.** Спачатку адрэзалі 13 м тканіны, а потым яшчэ 22 м. Засталося 19 м тканіны. Колькі метраў тканіны было?

**7.** Выберы схему, якая падыходзіць.
Дарожка ад уваходу ў парк да атракцыёнаў паварочвае тры разы пад прамым вуглом і адзін раз пад непрамым вуглом.




**8.** Знайдзі даўжыню паркавай дарожкі з задання 7, калі кожны сантыметр на схеме абазначае 10 м даўжыні дарожкі.

Прадоўжы сказы.
«Складанне можна праверыць … . Для праверкі ад сумы аднімаюць … . Павінна атрымацца … .»



**1.** Знайдзі значэнні выразаў. Зрабі праверку.

| | | |
|---|---|---|
| 57 + 42 | 39 + 9 | 60 + 15 |
| 36 + 23 | 75 + 7 | 77 + 23 |

**2.** У кнізе 58 старонак. У панядзелак Арцём прачытаў 14 старонак і ў аўторак столькі ж. Колькі старонак засталося прачытаць Арцёму?

**1.** Вылічы. Зрабі праверку.

75 – 30 46 – 24 68 – 18

67 – 48 97 – 39 100 – 28



Адніманне можна праверыць складаннем.
Для праверкі да атрыманай рознасці дадаюць аднімаемае.
Павінна атрымацца памяншаемае.

**2.** Дапоўні лікі да 100.

91 70 65 40 10 39 7 0

**3.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

65 + ? = 93 ? + 34 = 77

95 – ? = 79 ? – 39 = 61

**4.** У халадзільніку было 3 дзясяткі яек. Мама ўзяла некалькі яек. У халадзільніку засталося 21 яйка. Колькі яек узяла мама?

**5.** Дапоўні ўмову, складзі пытанне і рашы задачу.
Спачатку Света чытала кнігу … мін, а потым на 15 мін менш вышывала.



Было



Стала



**6.** Састаў роўнасці па схемах.







**7.** Назаві фігуры. Знайдзі перыметры фігур.



**8.**  У класе было 4 дзяўчынкі і 6 хлопчыкаў. З класа выйшла 5 дзяцей. Ці быў сярод іх хаця б адзін хлопчык?

Прадоўжы сказы.
«Адніманне можна праверыць … . Для праверкі да рознасці дадаюць … . Павінна атрымацца … .»



**1.** Вылічы. Зрабі праверку.

| | | |
|---|---|---|
| 50 – 31 | 48 – 23 | 63 – 37 |
| 78 – 34 | 54 – 26 | 100 – 36 |

**2.** Кірыл раніцай 10 мін робіць зарадку, 10 мін мыецца і 10 мін снедае. Ці хопіць яму гадзіны, каб паспець зрабіць усе гэтыя справы?

**1.**






11 – 5 = 6 | 72 – 30 = 42
11 – 6 = 5 | 72 – 42 = 30



Адніманне можна праверыць не толькі складаннем, але і адніманнем.
Для праверкі ад памяншаемага аднімаюць атрыманую рознасць. Павінна атрымацца аднімаемае.

**2.** Вылічы і выканай праверку.

58 – 18 35 – 18 70 – 28
94 – 31 52 – 39 100 – 55

**3.** Выканай дзеянні. Адказ запішы ў дэцыметрах і сантыметрах.

26 см + 9 см – 14 см 6 дм – 30 см + 42 см
75 см – 30 см + 16 см 1 м – 5 дм – 1 см
90 см – 2 дм + 4 см 1 м – 9 дм + 4 см

**4.** Выпішы правільныя няроўнасці.

30 > 40 99 < 25 + 75 55 + 0 = 55 7 дм > 7 см

**5.** Даўжыня першай стараны трохвугольніка 30 см, другой — столькі ж сантыметраў. Знайдзі даўжыню трэцяй стараны, калі перыметр трохвугольніка 8 дм.

**6.** Выберы схему, якая падыходзіць. Рашы задачу.
У Сямёна 18 машынак. Калі яго сястры Людзе падаравалі 3 лялькі, у яе стала столькі ж лялек, колькі машынак у Сямёна. Колькі лялек было ў Люды?




**7.** Устаў прапушчаныя знакі.

22 ? 8 ? 4 = 26 38 – 26 ? 45 ? 13 = 44
73 ? 7 ? 8 = 88 57 + 28 ? 22 ? 37 = 100

**8.**  Па дарозе адно за другім ідуць 7 дзяцей. За кожным хлопчыкам, акрамя апошняга, ідзе дзяўчынка. Колькі дзяўчынак ідзе па дарозе?

Прадоўжы сказы.
«Адніманне можна праверыць адніманнем. Для праверкі ад памяншаемага аднімаюць … . Павінна атрымацца … .»



**1.** Вылічы і выканай праверку.

46 – 26 41 – 27 40 – 28
78 – 68 84 – 69 100 – 67

**2.** Пасадзілі 60 дрэў. З іх 26 дубоў, астатнія — каштаны. Якіх дрэў пасадзілі больш і на колькі больш?

**1.** Вызнач парадак дзеянняў. Вылічы.

23 + 34 − 27 45 − 12 + 35 54 + 45 − 78



Калі ў выразе НЯМА ДУЖАК і ён утрымлівае толькі складанне і адніманне, то дзеянні выконваюць па парадку злева направа.

**2.** Вызнач парадак дзеянняў. Прачытай выразы. Вылічы.

56 – (13 + 12) 70 + (56 − 29) (24 + 45) − 16

78 – (47 − 36) 20 + (20 + 40) 64 − (39 − 9)



Калі ў выразе ЁСЦЬ ДУЖКІ, то дзеянні ў дужках выконваюць першымі.

**3.** Састаў выразы па схемах. Вылічы.







**4.** Выпішы правільныя няроўнасці.

21 < 23 20 > 72 − 50 46 + (16 − 12) > 50 − 1

13 > 13 38 + 8 < 50 100 – (13 + 13) < 80 – 5

**5.** На талерцы ляжала некалькі цукерак. Паклалі яшчэ 7 цукерак. На талерцы стала 12 цукерак. Колькі цукерак было на талерцы?

**6.** Складзі і рашы задачу.




**7.** Дзеці пачалі выконваць дамашняе заданне ў 17 г, а закончылі праз 40 мін. Які гадзіннік паказвае той час, калі дзеці пачалі выконваць дамашняе заданне? Які — калі закончылі яго выкананне?



**8.** Максім сарваў на 14 яблыкаў больш, чым Насця. Максім даў Насці 8 яблыкаў. У каго з іх яблыкаў стала больш і на колькі больш?

? Якое дзеянне выконваюць першым у выразах з дужкамі?



**1.** Запішы выразы і знайдзі іх значэнні.

Да рознасці лікаў 37 і 22 дадаць лік 64.

Ад ліку 100 адняць суму лікаў 79 і 11.

**2.** У кіёску было 53 калькулятары. Прадалі 18 вялікіх калькулятараў і некалькі маленькіх. У кіёску засталося 20 калькулятараў. Колькі маленькіх калькулятараў было прададзена?

**1.** Замяні складанне множаннем.

4 + 4 + 4 10 + 10 + 10 + 10 12 + 12

**2.** Замяні множанне складаннем. Вылічы.

5 · 2 15 · 3 30 · 3 42 · 2



Прачытай роўнасць 10 · 2 = 20, выкарыстоўваючы словы: памножыць, множнікі, здабытак.

**3.** Прачытай выразы. Вылічы.

2 · 6 8 · 3 9 · 2 3 · 5

**4.** Растлумач па рысунках роўнасці.



10 : 5 = 2 10 : 2 = 5



18 : 3 = 6 18 : 6 = 3



Прачытай роўнасць 20 : 2 = 10, выкарыстоўваючы словы: раздзяліць, дзялімае, дзельнік, дзель.

**5.** Прачытай выразы. Вылічы.

12 : 3 12 : 4 18 : 2 18 : 9

**6.** Зрабі схемы па ўзоры. Вылічы.

2 · 3 + 2 = 2 · 4 = 8

4 · 2 + 4 3 · 3 + 3

2 · 4 + 2 5 · 2 + 5

**7.** Састаў лікавыя выразы па схемах. Вылічы.







**8.** Дапоўні ўмову і рашы задачу.
У аднаго веласіпеда 2 колы. Колькі колаў у 6 такіх жа веласіпедаў?

**9.** Бабуля раздала 12 піражкоў унукам, па 3 піражкі кожнаму. Колькі ўнукаў у бабулі?

**10.** Дапоўні ўмову задачы адказам задачы 9. Складзі пытанне. Рашы задачу.
Бабуля раздала 12 піражкоў ? унукам, пароўну кожнаму.

**11.** Толя знайшоў суму двух лікаў, якія стаяць побач. Яна роўная 53. Якія лікі склаў Толя?


Прачытай роўнасці. Якая з іх правільная?

$5 + 5 + 4 = 5 \cdot 3$ $2 \cdot 4 = 2 + 2 + 2 + 2$


**1.** Вылічы.
$3 \cdot 4$ $2 \cdot 5$ $8 \cdot 3$ $3 \cdot 5$

**2.** У класе 8 сталоў. Колькі вучняў у класе, калі за кожным сталом сядзіць па 2 вучні?

## Урок 9

**1.** Як можна палічыць колькасць клетак рознымі спосабамі? Састаў роўнасці па ўзоры.

$3 \cdot 5 = 15$
$5 \cdot 3 = 15$

1 

2 



> Ад перастаноўкі множнікаў здабытак не мяняецца.

**2.** Параўнай.

$2 \cdot 3$ ? $3 \cdot 2$ $\quad$ $5 \cdot 2$ ? $2 + 5$ $\quad$ $2 \cdot 12$ ? $12 \cdot 3$

$2 \cdot 8$ ? $8 \cdot 2$ $\quad$ $4 + 3$ ? $3 \cdot 4$ $\quad$ $5 \cdot 13$ ? $14 \cdot 5$

**3.** Вылічы.

$2 \cdot 4 + 48$ $\quad$ $3 \cdot 8 - 6$ $\quad$ $6 \cdot 2 + 45$

$12 : 4 + 5$ $\quad$ $27 : 9 + 16$ $\quad$ $18 : 3 - 0$

**4.** Устаў прапушчаныя лікі так, каб лікавыя няроўнасці былі правільныя. Колькі такіх лікаў можа быць?

$7 \cdot 3 < 23 -$ ? $\quad$ $16 : 2 > 5 +$ ? $\quad$ $2 \cdot 5 >$ ? $+ 1$

**5.** Складзі і рашы задачу.

| Ёмістасць вядра (л) | Колькасць вёдзер (шт.) | Ёмістасць усіх вёдзер (л) |
|---|---|---|
| 6 | 3 | ? |

6. Віця сарваў 18 груш і раздзяліў пароўну паміж сабой і двума сябрамі. Колькі груш атрымаў кожны?

7. Разгледзь схему. Рашы задачу.
У каробцы фламастараў на 16 больш, чым алоўкаў. У каробку паклалі яшчэ 9 алоўкаў. Якіх прадметаў у ёй стала больш? На колькі больш?

| | Было | Стала |
|---|---|---|
| | 16 | 16 |
| | | 9 |

8. Запішы здабыткі адназначных лікаў, у якіх другі множнік на 4 большы за першы.



Выберы правільныя роўнасці.

$2 \cdot 3 = 3 \cdot 2$ $3 \cdot 7 = 7 + 3$ $24 \cdot 2 = 2 \cdot 24$



1. Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| $3 \cdot 6$ | $2 \cdot 8$ | $9 \cdot 3$ | $10 \cdot 2$ |
| $6 \cdot 3$ | $8 \cdot 2$ | $3 \cdot 9$ | $2 \cdot 10$ |

2. Тата паглядзеў па тэлевізары дакументальны фільм, перадачу «Навіны» і прагноз надвор'я. Фільм доўжыўся 35 мін, перадача «Навіны» — 20 мін. Колькі мінут доўжыўся прагноз надвор'я, калі тата глядзеў тэлевізар адну гадзіну?

**1.** Растлумач па рысунку роўнасці.



$2 \cdot 9 = 18$
$9 \cdot 2 = 18$
$18 : 2 = 9$
$18 : 9 = 2$



Калі здабытак двух множнікаў падзяліць на адзін з іх, то атрымаецца другі множнік.

**2.** Які з трох лікаў з'яўляецца здабыткам двух іншых? Якія два лікі з трох — дзеллю? Састаў роўнасці.

2 8 4    18 9 2    3 9 27    5 10 2

**3.** Устаў прапушчаныя лікі.

52 + 4 + ? = 59
37 – 2 – ? = 33
99 – 5 – ? = 91

76 + 3 – ? = 77
64 + 3 + ? = 68
8 + 6 + ? = 54

**4.** Складзі і рашы задачы.

| Цукерак у 1 пакеце | Колькасць пакетаў | Усяго цукерак |
|---|---|---|
| 7 | 3 | ? |
| 7 | ? | 21 |
| ? | 3 | 21 |

**5.** Даўжыня прамавугольніка 21 см, а шырыня на 2 см меншая. Знайдзі перыметр гэтага прамавугольніка.

**6.** Кожную старану прамавугольніка з задання 5 паменшылі на 17 см. Знайдзі атрыманы прамавугольнік.





**7.** Пяцярым шчанятам далі па дзве костачкі і яшчэ тры костачкі далі шостаму шчаняці. Колькі костачак раздалі шчанятам?

**8.** Вылічы.

$$+\begin{array}{r}57\\ \underline{19}\end{array}\qquad +\begin{array}{r}32\\ \underline{48}\end{array}\qquad +\begin{array}{r}61\\ \underline{24}\end{array}\qquad -\begin{array}{r}73\\ \underline{42}\end{array}\qquad -\begin{array}{r}81\\ \underline{67}\end{array}$$

**9.** У Машы, Каці і Лены была кніга, часопіс і альбом. У Лены не было альбома і часопіса, у Машы не было альбома. Які прадмет быў у кожнай дзяўчынкі?



Закончы сказ.
«Калі здабытак двух множнікаў падзяліць на адзін з іх, то атрымаецца… .»



**1.** Вылічы.

$2 \cdot 7$ $7 \cdot 2$ $14 : 2$ $14 : 7$

**2.** Мама раздала двум братам і сястры 12 апельсінаў, пароўну кожнаму. Колькі апельсінаў атрымала кожнае дзіця?



Успомні табліцу множання з лікам 2.

| • | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | 4 | 6 | 8 | 10 | 12 | 14 | 16 | 18 |

**1.** Састаў прыклады на множанне з адказамі:

6 12 14 18

**2.** Састаў прыклады на дзяленне з адказамі:

3 5 7 2

**3.** Вылічы.

$2 \cdot 8 - 15$ $2 \cdot 5 + 10$ $2 \cdot 9 - 9$

$16 : 8 + 5$ $14 : 7 + 23$ $18 : 9 + 31$

**4.** Устаў прапушчаныя лікі.

$7 \cdot ? = 14$ $2 \cdot ? = 10$ $? \cdot 6 = 12$

$? \cdot 2 = 18$ $? : 2 = 4$ $8 : ? = 2$

**5.** Складзі і рашы задачу. Складзі адваротныя задачы.

| Кветак у адной вазе | Колькасць ваз | Усяго кветак |
|---|---|---|
| ? | 3 | 27 |

**6.** У заапарку было 85 звяроў і птушак. Звяроў было 56. У гэтым годзе ў заапарк прывезлі яшчэ 10 птушак. Колькі птушак стала ў заапарку?

**7.** Выберы схему, якая падыходзіць. Рашы задачу.
У парку 45 ліп і бяроз, а ліп і клёнаў — 50. Чаго больш — бяроз ці клёнаў? На колькі больш?







**8.** Колькі прамых вуглоў? Колькі непрамых вуглоў?



**9.** У каробцы змяшчаецца 20 чырвоных мячоў або 15 сініх мячоў. Якія мячы па памеры меншыя — чырвоныя ці сінія?

? Якія лікі ад 1 да 20 дзеляцца на 2?



**1.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 2 · 3 | 2 · 8 | 39 + 27 |
| 8 : 2 | 12 : 2 | 68 – 36 |

**2.** Даўжыня стараны квадрата 2 дм. Знайдзі перыметр квадрата.



Успомні табліцу множання з лікам 3.

| • | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | 6 | 9 | 12 | 15 | 18 | 21 | 24 | 27 |

**1.** Састаў прыклады на множанне з адказамі:

6 12 15 24

**2.** Састаў прыклады на дзяленне з адказамі:

6 4 9 3

**3.** Вылічы.

$3 \cdot 8 + 3$ $3 \cdot 5 + 15$ $3 \cdot 2 \cdot 3$

$9 \cdot 3 - 3$ $6 \cdot 3 - 9$ $2 \cdot 2 \cdot 3$

$2 \cdot 9 : 6$ $16 : 2 \cdot 3$ $3 \cdot 3 \cdot 3$

**4.** Які з трох лікаў з'яўляецца здабыткам двух іншых? Якія два лікі з трох — дзеллю? Састаў роўнасці.

27 9 3 3 7 21 5 3 15

**5.** Састаў выразы. Знайдзі іх значэнні.

Да здабытку лікаў 3 і 8 дадаць 10.

Ад дзелі лікаў 18 і 2 адняць 0.

Здабытак лікаў 2 і 5 павялічыць на 70.

Дзель лікаў 27 і 9 паменшыць на 3.

6. Мама прыгатавала 5 слоікаў джэму. На кожны слоік пайшло па 1 шклянцы ягад і па 2 шклянкі цукру. Колькі шклянак ягад і цукру пайшло на ўвесь джэм?

7. Мама прыгатавала джэмы трох відаў: з вішань, малін і клубніц. Слоікаў з вішнёвым джэмам было не больш, чым слоікаў з малінавым джэмам. Колькі слоікаў з джэмам кожнага віду магло быць?

8. У Косці было на 15 салдацікаў больш, чым у Дзяніса. Дзянісу падаравалі яшчэ 20 салдацікаў. У каго цяпер салдацікаў больш? На колькі больш?

9. Ігар мые 6 талерак за той жа час, што і 8 кубкаў. Што ён мые хутчэй — талерку ці кубак? Што ён вымые хутчэй — 5 талерак ці 5 кубкаў?

Якія лікі ад 1 да 30 дзеляцца на 3?

1. Устаў прапушчаныя лікі.

| | | |
|---|---|---|
| 7 · ? = 21 | 8 · ? = 24 | ? · 6 = 18 |
| 15 : ? = 3 | 24 : ? = 3 | ? : 3 = 3 |

2. Дапоўні ўмову задачы. Рашы задачу.
На адной паліцы … кніг. Колькі кніг на 3 такіх паліцах?

# Множанне і дзяленне





$4 \cdot 9 = 9 \cdot 4$

Растлумач і запомні.

| |
|---|
| $4 \cdot 4 = 16$ |
| $4 \cdot 5 = 20$ |
| $4 \cdot 6 = 24$ |
| $4 \cdot 7 = 28$ |
| $4 \cdot 8 = 32$ |
| $4 \cdot 9 = 36$ |

| |
|---|
| $5 \cdot 4 = 20$ |
| $6 \cdot 4 = 24$ |
| $7 \cdot 4 = 28$ |
| $8 \cdot 4 = 32$ |
| $9 \cdot 4 = 36$ |

**1.** Растлумач вылічэнні.




$4 \cdot 6 = 4 \cdot 5 + 4$

$4 \cdot 6 = 20 + 4$

Разважай так:
Трэба 4 памножыць на 6. Я памятаю, што 4 памножыць на 5 — гэта 20. Каб знайсці адказ, можна да 20 дадаць 4. Да 20 дадаю 4. Атрымліваю 24.

**2.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| $4 \cdot 6$ | $4 \cdot 3$ | $4 \cdot 9$ |
| $4 \cdot 7$ | $4 \cdot 4$ | $4 \cdot 10$ |

**3.** Растлумач вылічэнні.




$4 \cdot 4 = 4 \cdot 5 - 4$

$4 \cdot 4 = 20 - 4$

Разважай так:
Трэба 4 памножыць на 4. Я памятаю, што 4 памножыць на 5 — гэта 20. Каб знайсці адказ, можна ад 20 адняць … . Ад … аднімаю …, атрымліваю … .

**4.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 4 · 8 | 6 · 3 | 9 · 4 |
| 4 · 7 | 6 · 2 | 9 · 3 |

**5.** Вылічы.

58 см + 12 см – 34 см　　　　10 дм – 36 см + 42 см

**6.** Было 100 м тканіны. На сукенкі зрасходавалі 45 м тканіны, а на кашулі — 30 м. Колькі метраў тканіны засталося?


Прылічвай па 4, пачынаючы ад ліку чатыры да ліку сорак.


**1.** Вылічы.

24 : 3　　14 : 7　　9 · 4　　4 · 7

**2.** На паліцы было 25 жоўтых, зялёных і чырвоных кубікаў. Колькі кубікаў знялі з паліцы, калі на ёй засталося 13 жоўтых і 2 зялёныя кубікі?





4 · 5 = 20
20 : 5 = ?
20 : 4 = ?

Растлумач і запомні.

| | | |
|---|---|---|
| 4 · 4 = 16 | 16 : 4 = 4 | |
| 4 · 5 = 20 | 20 : 4 = 5 | 20 : 5 = 4 |
| 4 · 6 = 24 | 24 : 4 = 6 | 24 : 6 = 4 |
| 4 · 7 = 28 | 28 : 4 = 7 | 28 : 7 = 4 |
| 4 · 8 = 32 | 32 : 4 = 8 | 32 : 8 = 4 |
| 4 · 9 = 36 | 36 : 4 = 9 | 36 : 9 = 4 |

**1.** Знайдзі прапушчаныя лікі. Састаў роўнасці.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Множнік | 4 | ? | ? | 4 | Дзель |
| Множнік | ? | 4 | 8 | ? | Дзельнік |
| Здабытак | 20 | 24 | 32 | 36 | Дзялімае |

**2.** Вылічы.

45 – 40 + 79
100 – 48 + 17
50 – 43 + 76 – 69

70 – 20 – 8
65 – 65 + 99
58 + 25 – 82 + 70

**3.** Саша сарваў 20 сліў і раздзяліў пароўну паміж сабой і трыма сябрамі. Колькі сліў атрымаў кожны?

**4.** Выразі ў мінутах.

1 г 15 мін  1 г 30 мін  1 г 40 мін  1 г 23 мін

Выразі ў гадзінах і мінутах.

70 мін  80 мін  95 мін  66 мін

**5.** Пасадзілі 50 дрэў. З іх 38 ліп, астатнія — каштаны. Якіх дрэў пасадзілі больш і на колькі больш?

**6.** Даўжыні звёнаў ломанай 3 дм, 2 дм і 4 дм. Якой будзе даўжыня ломанай, калі адно са звёнаў павялічыць на 1 см, а другое паменшыць на 1 см?

**7.** Вымерай даўжыні звёнаў ломанай. Знайдзі даўжыню ломанай.





Адлічвай па чатыры, пачынаючы ад ліку сорак.



**1.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 4 · 8 | 32 : 4 | 32 : 8 |
| 5 · 4 | 20 : 5 | 20 : 4 |

**2.** У вагоне было 47 пасажыраў. На трох прыпынках выйшла па 4 пасажыры. Колькі пасажыраў засталося ў вагоне?



На паліцы 3 кубкі, а шклянак у 2 разы больш. Колькі шклянак на паліцы?



Кубкаў — 3
Шклянак — ?, у 2 разы больш



**1.** Выберы схему да кожнай задачы. Рашы задачы.

- Каця купіла 2 паштоўкі, а Вольга — **на 3** паштоўкі больш. Колькі паштовак купіла Вольга?
- Каця купіла 2 паштоўкі, а Вольга — **у 3 разы** больш. Колькі паштовак купіла Вольга?







**2.** Складзі і рашы задачы.







**3.** Састаў выразы. Знайдзі іх значэнні.

- Множнікі 8 і 3.
- Лік 8 павялічыць у 3 разы.
- Здабытак лікаў 4 і 9.
- Лік 4 павялічыць у 9 разоў.

**4.** Вылічы.

28 : 7 · 5 80 – 56 + 19 36 + 29 + 14 + 11

36 : 4 · 3 90 – 4 – 10 42 + 15 + 28 + 5

**5.** На колькі адзін лік большы або меншы за другі?

99 і 48 24 і 70 82 і 29

12 і 45 28 і 16 42 і 100

**6.** Вылічы.

$+\begin{array}{r}22\\ \underline{53}\end{array}$ $+\begin{array}{r}36\\ \underline{28}\end{array}$ $+\begin{array}{r}28\\ \underline{72}\end{array}$ $-\begin{array}{r}90\\ \underline{29}\end{array}$ $-\begin{array}{r}68\\ \underline{24}\end{array}$

**7.** Начарці ломаную, даўжыню якой можна вылічыць так:

3 см · 2 + 4 см



Прачытай выразы, выкарыстоўваючы словы «павялічыць».

8 · 4 3 · 5



**1.** Параўнай.

3 · 8 + 3 ? 3 · 9 7 дм 8 см ? 87 см

4 · 9 – 4 ? 4 · 8 4 дм 9 см ? 94 см

**2.** Да абеду ў магазіне прадалі 25 пакетаў соку, што на 10 пакетаў менш, чым было прададзена пасля абеду. Колькі пакетаў соку было прададзена за ўвесь дзень?



Было 6 маленькіх ракетак, а вялікіх — у 2 разы менш. Колькі было вялікіх ракетак?



Маленькіх — 6
Вялікіх — ?, у 2 разы менш



**1.** Выберы схему да кожнай задачы. Рашы задачы.

- У спартыўнай камандзе 6 хлопчыкаў, а дзяўчынак **на 3** менш. Колькі дзяўчынак у камандзе?
- У спартыўнай камандзе 6 хлопчыкаў, а дзяўчынак **у 3 разы** менш. Колькі дзяўчынак у камандзе?







**2.** Сыну 6 гадоў. Колькі гадоў маме, калі яна ў 5 разоў старэйшая за сына?

**3.** Састаў выразы. Знайдзі іх значэнні.

- Дзялімае 16, дзельнік 4.
- Лік 16 паменшыць у 4 разы.
- Дзель лікаў 24 і 6.
- Лік 24 паменшыць у 6 разоў.

**4.** Складзі задачу па кароткім запісе. Рашы задачу.

I — 25 разоў
II — столькі ж разоў } ?
III — ?, на 12 менш, чым



**5.** Запішы лікі ад 3 да 30, якія дзеляцца на 3; на 4.

**6.** Састаў выразы. Знайдзі іх значэнні.

Павяліч у 3 разы (верхні радок); Павяліч на 3 (ніжні радок)

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| ? | ? | ? | ? | ? |
| 9 | 8 | 6 | 5 | 4 |
| ? | ? | ? | ? | ? |

**7.** Знайдзі перыметр квадрата, даўжыня стараны якога роўная 6 см.

Прачытай выразы, выкарыстоўваючы слова «паменшыць».

27 : 9     36 : 4



**1.** Устаў прапушчаныя лікі.

4 · ? = 36     7 · ? = 21     ? · 6 = 12
20 : ? = 4     24 : ? = 8     ? : 3 = 6

**2.** У збане было 2 л вады, а ў вядры — у 5 разоў больш. Колькі літраў вады было ў вядры?

**1.** Даўжыня адной стараны прамавугольніка 4 дм, а даўжыня другой яго стараны ў 3 разы большая. Знайдзі даўжыню другой стараны прамавугольніка. Знайдзі перыметр прамавугольніка.

**2.** Дашы 18 гадоў. Колькі гадоў брату Дашы, калі ён у 3 разы маладзейшы за яе?

**3.** Дапоўні ўмову задачы з дапамогай схемы. Рашы задачу.
У Віці ў тэлефоне запісана … нумароў сяброў. З іх … нумароў — аднакласнікі, … нумароў — сябры з летняга лагера адпачынку, а астатнія сябры жывуць з Віцем у адным доме. Колькі нумароў сяброў з дома запісана ў Віцевым тэлефоне?




**4.** Знайдзі прапушчаныя лікі. Састаў роўнасці.

| Множнік | 3 | ? | ? | 4 | Дзель |
|---|---|---|---|---|---|
| Множнік | ? | 5 | 9 | ? | Дзельнік |
| Здабытак | 12 | 20 | 27 | 32 | Дзялімае |

**5.** Паменшы лікі ў 4 разы. 8 16 24 20 28

Павяліч лікі ў 3 разы. 4 8 3 5 9

**6.** Знайдзі заканамернасць і прадоўжы рад.




**7.** Параўнай значэнні выразаў.

4 · 5 ? 4 · 4 + 4 3 · 7 ? 3 · 9 – 3

4 · 8 ? 4 · 9 – 4 2 · 8 ? 2 · 5 + 2

**8.** Перыметр квадрата роўны 1 дм 6 см. Знайдзі даўжыню стараны квадрата.

**9.** Пеця сфатаграфаваў каўпачок зверху. Выберы фатаграфію, якая атрымалася.






**1.** Вылічы.

14 : 7 24 : 6 7 · 4

4 · 8 2 · 4 12 : 4

**2.** Даўжыня аднаго адрэзка 18 см, а даўжыня другога адрэзка ў 6 разоў меншая. Знайдзі даўжыню другога адрэзка. Начарці гэты адрэзак.





$5 \cdot 9 = 9 \cdot 5$

Растлумач і запомні.

| |
|---|
| $5 \cdot 5 = 25$ |
| $5 \cdot 6 = 30$ |
| $5 \cdot 7 = 35$ |
| $5 \cdot 8 = 40$ |
| $5 \cdot 9 = 45$ |

| |
|---|
| $6 \cdot 5 = 30$ |
| $7 \cdot 5 = 35$ |
| $8 \cdot 5 = 40$ |
| $9 \cdot 5 = 45$ |

**1.** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| $5 \cdot 7$ | $2 \cdot 5$ | $4 \cdot 4$ | $18 : 3$ |
| $5 \cdot 8$ | $4 \cdot 5$ | $4 \cdot 8$ | $15 : 3$ |
| $9 \cdot 5$ | $5 \cdot 5$ | $6 \cdot 4$ | $14 : 2$ |

**2.** Знайдзі значэнні выразаў.

| | | |
|---|---|---|
| $89 - 20 - 3$ | $100 - 20 - 5$ | $50 - 40 + 5$ |
| $40 + 21 - 6$ | $100 - 37 + 1$ | $18 - 9 + 12$ |

**3.** Колькі дзён сям'я правяла на моры, калі яна была там 2 тыдні і 4 дні?

**4.** У прамавугольніка шырыня 3 см, а даўжыня ў 4 разы большая. Знайдзі перыметр прамавугольніка.

**5.** Выпішы ў парадку нарастання.

5 см 5 дм 20 см 63 см 1 м 1 дм

**6.** На талерцы 5 персікаў, а сліў у 3 разы больш. Колькі на талерцы сліў?



**7.** Параўнай гэту задачу з папярэдняй і рашы яе.
На талерцы 5 персікаў. Гэта ў 3 разы менш, чым сліў. Колькі на талерцы сліў?




Разважай так:
Персікаў у 3 разы менш, чым сліў.
Значыць, сліў у 3 разы больш, чым персікаў.

**8.** Вася прачытаў 9 старонак кнігі. Гэта ў 5 разоў менш за тое, што прачытаў яго старэйшы брат. Колькі старонак прачытаў старэйшы брат?


Прылічвай па 5 ад ліку пяць да ліку пяцьдзясят.


**1.** Параўнай.

27 : 3 ? 18 : 2　　　　20 : 4 ? 10 : 2
6 · 4 ? 3 · 8　　　　2 · 9 ? 5 · 4

**2.** У сям'і тры браты. Паўлу 5 гадоў. Віця на 4 гады старэйшы за Паўла. Валодзя ў 3 разы маладзейшы за Віцю. Колькі гадоў Валодзю? Хто старэйшы з братоў?





5 · 6 = 30

30 : 5 = ?

30 : 6 = ?

Растлумач і запомні.

5 · 5 = 25
5 · 6 = 30
5 · 7 = 35
5 · 8 = 40
5 · 9 = 45

25 : 5 = 5
30 : 5 = 6
35 : 5 = 7
40 : 5 = 8
45 : 5 = 9

30 : 6 = 5
35 : 7 = 5
40 : 8 = 5
45 : 9 = 5

**1.** Знайдзі прапушчаныя лікі. Састаў роўнасці.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Множнік | 9 | ? | ? | 5 | Дзель |
| Множнік | ? | 5 | 6 | ? | Дзельнік |
| Здабытак | 45 | 35 | 30 | 25 | Дзялімае |

**2.** Знайдзі значэнні выразаў.

8 · 2 + 15
8 · 5 – 6
45 : 9 – 4

40 : 8 + 25
3 · 8 – 7
18 : 2 + 39

**3.** Знайдзі заканамернасць і прадоўжы называць лікі.
12, 13, 15, 18, 22, ..., ... .

**4.** Купілі 12 табурэтак, а крэсел у 3 разы менш. Колькі купілі крэсел?

**5.** Параўнай гэту задачу з папярэдняй і рашы яе.
Купілі 12 табурэтак. Табурэтак купілі ў 3 разы больш, чым крэсел. Колькі купілі крэсел?




Разважай так:
Табурэтак у 3 разы больш, чым крэсел.
Значыць, крэсел у 3 разы менш, чым табурэтак.

**6.** Дзіма рашыў задачу за 8 мін. Ён патраціў у 2 разы больш часу, чым Міша. Колькі мінут спатрэбілася Мішу, каб рашыць задачу?

**7.** Пеця прыйшоў дадому са школы ў 13 г 15 мін. Праз 45 мін ён закончыў абедаць. А якой гадзіне Пеця закончыў абедаць?




? Адлічвай па пяць, пачынаючы ад ліку пяцьдзясят.



**1.** Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.

- Паменшы лікі ў 5 разоў. 30 40 20
- Павяліч лікі ў 4 разы. 5 7 9

**2.** На будоўлю прыехала 8 машын з цэментам. Іх было ў 5 разоў менш, чым машын з блокамі. Колькі машын з блокамі прыехала на будоўлю?



На арэне цырка 6 тыграў і 2 львы. У колькі разоў тыграў больш, чым ільвоў? У колькі разоў ільвоў менш, чым тыграў.



Тыграў — 6
Ільвоў — 2
у колькі разоў?



Каб даведацца, у колькі разоў адзін лік большы або меншы за другі, трэба большы лік падзяліць на меншы.

**1.** Купілі 9 м сіняй тасьмы і 3 м жоўтай. У колькі разоў сіняй тасьмы купілі больш, чым жоўтай?

**2.** Састаў выраз і знайдзі дзель двух лікаў. У колькі разоў адзін лік большы або меншы, чым другі?













**3.** Састаў і прачытай роўнасці.









**4.** Устаў прапушчаныя лічбы.

$2* + *3 = 41$ $\quad$ $*7 + 5* = 72$ $\quad$ $7* - *2 = 39$ $\quad$ $*4 - 5* = 18$

**5.** Выкарыстоўваючы лікі ад 2 да 9, састаў усе правільныя няроўнасці, калі 6 · ? < 36.

**6.** Дзіма вучыць англійскую мову. Кожны дзень ён звычайна запамінае 5 новых слоў. Колькі слоў Дзіма можа запомніць за тыдзень?

**7.** Рашы задачу, выкарыстоўваючы даныя і адказ задачы 6.
Дзіма ў панядзелак, аўторак і чацвер штодзённа запамінаў на 2 словы больш, а ў астатнія дні тыдня — на 2 словы менш, чым звычайна. Больш ці менш слоў ён вывучыў за гэты тыдзень? На колькі слоў больш ці менш?

? У колькі разоў 45 больш, чым 9?
У колькі разоў 4 менш, чым 32?



**1.** Састаў выразы. Знайдзі іх значэнні.
- Дзель лікаў 18 і 3 павялічыць у 5 разоў.
- Здабытак лікаў 6 і 6 падзяліць на 4.
- Здабытак лікаў 6 і 4 паменшыць у 8 разоў.

**2.** Міця зняў відэакліп пра Мухтара, які доўжыўся 15 мін. Гэта ў 3 разы больш, чым відэакліп пра Мурку. Колькі мінут доўжыўся відэакліп пра Мурку?





$6 \cdot 9 = 9 \cdot 6$

Растлумач і запомні.

$6 \cdot 6 = 36$
$6 \cdot 7 = 42$
$6 \cdot 8 = 48$
$6 \cdot 9 = 54$

$7 \cdot 6 = 42$
$8 \cdot 6 = 48$
$9 \cdot 6 = 54$

**1.** Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Множнік | 6 | 9 | 6 | 4 | 6 |
| Множнік | 7 | 6 | 3 | 6 | 5 |

**2.** Вылічы. Адказ запішы ў дэцыметрах і сантыметрах.

6 см · 3 　 2 см · 9 　 5 см · 6
8 см · 6 　 9 см · 5 　 4 см · 9

**3.** Устаў знакі «+» або «–», каб роўнасці былі правільныя.

49 ? 5 ? 2 = 42 　 97 ? 22 ? 18 = 57
54 ? 30 ? 3 = 87 　 61 ? 11 ? 50 = 100

**4.** Даўжыня адрэзка 8 см, а даўжыня ломанай 40 см. У колькі разоў адрэзак карацейшы за ломаную?

**5.** Летам было 68 сонечных дзён. Колькі было нясонечных дзён?

| ЧЭРВЕНЬ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ПН | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| АЎТ | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| СР | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| ЧЦ | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| ПТ | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| СБ | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| НДЗ | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |

| ЛІПЕНЬ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ПН | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| АЎТ | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| СР | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| ЧЦ | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| ПТ | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| СБ | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| НДЗ | 7 | 14 | 21 | 28 | |

| ЖНІВЕНЬ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ПН | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| АЎТ | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| СР | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| ЧЦ | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| ПТ | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| СБ | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| НДЗ | 4 | 11 | 18 | 25 | |

**6.** Складзі і рашы задачы.







**7.** Колькі квадратаў адлюстравана на кожным рысунку?







Прылічвай па шэсць, пачынаючы ад ліку шэсць да ліку шэсцьдзясят.



**1.** Вылічы. Рэзультат запішы ў дэцыметрах і сантыметрах.

5 дм – 20 см + 48 см  6 см · 9
70 см – 3 дм + 47 см  8 см · 6

**2.** У колькі разоў ёмістасць бочкі большая за ёмістасць вядра, калі ў бочцы 30 л вады, а ў вядры 5 л?





6 · 8 = 48
48 : 6 = ?
48 : 8 = ?

Растлумач і запомні.

6 · 6 = 36
6 · 7 = 42
6 · 8 = 48
6 · 9 = 54

36 : 6 = 6
42 : 6 = 7
48 : 6 = 8
54 : 6 = 9

42 : 7 = 6
48 : 8 = 6
54 : 9 = 6

**1.** Знайдзі прапушчаныя лікі. Сastaў роўнасці.

| Множнік | 9 | ? | ? | 6 | Дзель |
|---|---|---|---|---|---|
| Множнік | ? | 7 | 6 | ? | Дзельнік |
| Здабытак | 54 | 42 | 48 | 36 | Дзялімае |

**2.** Параўнай.

94 – 6 ? 49 + 39
69 + 13 ? 100 – 18
88 – 51 ? 89 – 52
60 + 15 ? 59 + 14

**3.** Вырazі ў мінутах.

1 г 10 мін   1 г 40 мін   1 г 35 мін   1 г 2 мін

Вырazі ў гадзінах і мінутах.

75 мін   88 мін   90 мін   100 мін

**4.** Складзі і рашы задачу. Складзі адваротныя задачы.

| Кішэней на сукенцы | Колькасць сукенак | Усяго кішэней |
|---|---|---|
| 4 | 6 | ? |

**5.** Купілі 40 білетаў у цырк. Ці хопіць гэтых білетаў для двух класаў, калі ў адным класе 20 вучняў, а ў другім — 17 вучняў?

**6.** За кожны дзень майстар робіць на 6 дэталей больш, чым вучань. На колькі дэталей больш зробіць майстар ад панядзелка да пятніцы ўключна?

**7.** Дзіма і Лёша — браты. Дзіма сказаў, што ў яго дзве сястры, і Лёша сказаў, што ў яго дзве сястры. Колькі дзяцей у сям'і Дзімы і Лёшы?

**?** Знайдзі заканамернасць і прадоўжы называць лікі.

60 54 48 ? ? ?



**1.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

$4 \cdot ? = 24$ $\quad$ $6 \cdot ? = 48$ $\quad$ $25 + 35 + ? = 90$

$? : 9 = 6$ $\quad$ $25 : ? = 5$ $\quad$ $88 - 44 - ? = 10$

**2.** У кожнай легкавой машыны 4 колы і адно запасное кола. Колькі ўсяго колаў у 9 машын?

**1.** Знайдзі заканамернасць і прадоўжы рад лікаў.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 54 | 48 | 42 | 36 | ? | ? | ? | ? | ? |

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | 10 | 15 | 20 | ? | ? | ? | ? | ? |

**2.** Які з трох лікаў з'яўляецца здабыткам двух іншых? Якія два лікі з трох — дзеллю? Састаў роўнасці.

48 6 8    9 5 45    6 36 6    36 9 4

**3.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

? – 25 = 42 : 7    54 : 9 = 36 – ?

? + 12 = 6 · 4    8 · 5 = 30 + ?

**4.** У куску было 47 м тканіны. З 20 м гэтай тканіны пашылі сукенкі, а з астатняй тканіны — 9 аднолькавых кашуль. Колькі метраў тканіны пайшло на кожную кашулю?

**5.** Кожныя паўгадзіны на будоўлю прывозяць 6 машын пяску. Колькі машын пяску прывязуць на будоўлю за 2 гадзіны?



Паўгадзіны — гэта палавіна гадзіны.
Падумай, колькі ў адной гадзіне палавін гадзіны.






**6.** Растлумач, што абазначаюць выразы. Якія запісы лішнія?

У кошыку 12 баравікоў, 24 падасінавікі, рыжыкаў у 4 разы менш, чым падасінавікаў, а падбярозавікаў на 4 менш, чым баравікоў.

12 + 24    24 : 4    12 + 4    12 – 4

12 : 4    24 – 12    24 : 12

**7.** Якія вуліцы ўтвараюць пры перасячэнні прамыя вуглы? Непрамыя вуглы?




**8.** Сума двух лікаў роўная 33. Адзін з іх заканчваецца на 0. Калі гэты нуль адкінуць, то атрымаецца другі лік. Назаві гэтыя лікі.



**1.** Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.

- Паменшы ў 6 разоў лікі. 30 42 18
- Павяліч у 7 разоў лікі. 5 6 4

**2.** Купілі 8 чайных сервізаў па 6 кубкаў у кожным і яшчэ адзін сервіз з 12 кубкамі. Колькі ўсяго кубкаў купілі?





$7 \cdot 9 = 63$
$9 \cdot 7 = ?$
$63 : 7 = ?$
$63 : 9 = ?$

Растлумач і запомні.

$7 \cdot 7 = 49$
$7 \cdot 8 = 56$
$7 \cdot 9 = 63$

$8 \cdot 7 = 56$
$9 \cdot 7 = 63$

$49 : 7 = 7$
$56 : 7 = 8$
$63 : 7 = 9$

$56 : 8 = 7$
$63 : 9 = 7$

**1.** Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Множнік | 8 | ? | ? | 7 | Дзель |
| Множнік | ? | 7 | 9 | ? | Дзельнік |
| Здабытак | 56 | 49 | 63 | 42 | Дзялімае |

**2.** Знайдзі заканамернасць і прадоўжы рад лікаў.

63 56 49 42 ? ? ? ? ?

6 12 18 24 ? ? ? ? ?

**3.** Састаў выразы. Знайдзі іх значэнні.
- Дзель лікаў 49 і 7 павялічыць у 5 разоў.
- Здабытак лікаў 6 і 4 паменшыць у 8 разоў.
- Здабытак лікаў 3 і 6 паменшыць у 9 разоў.
- Дзель лікаў 63 і 7 павялічыць у 6 разоў.

**4.** Прайшло 4 тыдні і 5 дзён. Колькі дзён прайшло?

**5.** Складзі задачы, якія рашаюцца так:

$3 + 9$ $3 \cdot 9$ $9 - 3$ $9 : 3$

**6.** Знайдзі фігуры, перыметры якіх роўныя 8 см. Назаві гэтыя фігуры.



**7.** У Таніных кара́лях 7 чырвоных пацерачак. Гэта ў 7 разоў менш, чым жоўтых. Колькі жоўтых пацерачак у каралях? Колькі ўсяго пацерачак?

? Прылічвай па сем, пачынаючы ад ліку сем да ліку семдзесят.



**1.** Параўнай.

$56 : 7$ ? $45 : 5$ $49 : 7$ ? $42 : 7$

$7 \cdot 9$ ? $7 \cdot 7$ $2 \cdot 7$ ? $3 \cdot 7$

**2.** Мастак пісаў партрэт 12 тыдняў. На працу пайшло ў 2 разы больш часу, чым ён планаваў. Колькі тыдняў планаваў затраціць мастак на працу?



| | | |
|---|---|---|
| 25 + ? | $25 + a$ | $a$, $b$, $c$ — лацінскія літары |
| 64 : ? | $64 : b$ | $a$ — чытаем «а» |
| ? – 8 | $c - 8$ | $b$ — чытаем «бэ» |
| | | $c$ — чытаем «цэ» |

Выразы, у якіх ёсць літары, называюць літарнымі выразамі.

Літару можна замяняць рознымі лікамі і знаходзіць значэнні выразаў.

Літару ў выразе называюць **пераменнай**.

**1.** Прачытай выразы. Знайдзі значэнні выразаў, калі $a = 20$, $b = 25$. Запішы па ўзоры.

$\underline{a + 20}$
$20 + 20 = 40$

$a - 20$ $\quad$ $b + 75$ $\quad$ $a + b$
$a + 79$ $\quad$ $b - 0$ $\quad$ $b - a$

**2.** Замяні пераменныя лікамі так, каб значэнне кожнага выразу было роўнае 6.

$a - 24$ $\quad$ $46 - c$ $\quad$ $18 : b$ $\quad$ $a \cdot 3$

**3.** Растлумач, што абазначаюць выразы.
У першай каробцы 12 алоўкаў, у другой каробцы $a$ алоўкаў, а ў трэцяй — $b$ алоўкаў.

$12 + a$ $\quad$ $b - a$ $\quad$ $12 + a + b$ $\quad$ $a + b$ $\quad$ $12 : b$

**4.** Папугай можа вывучыць 2 словы за адзін дзень. Яго вучылі 5 дзён, а потым папугай вывучыў яшчэ 5 слоў. Колькі ўсяго слоў вывучыў папугай?

**5.** Замяні ў кароткім запісе літары лікамі з умовы задачы. Рашы задачу. Складзі 2 адваротныя задачы.
Швачка за 1 гадзіну можа пашыць 6 навалачак. Колькі навалачак можа пашыць швачка за 5 гадзін працы?

| Навалачак за 1 гадзіну (шт.) | Час працы (г) | Усяго навалачак (шт.) |
|---|---|---|
| $a$ | $b$ | ? |

**6.** Начарці ў сшытку такія фігуры. Параўнай іх перыметры.



**7.** Параўнай.

3 тыдні ? 1 месяц
4 тыдні ? 1 месяц
9 тыдняў ? 64 дні

2 месяцы ? 10 тыдняў
30 дзён ? 4 тыдні
8 тыдняў ? 2 месяцы

Прачытай выразы. Знайдзі іх значэнні, калі $a = 3$, $b = 8$, $c = 0$.

$15 \cdot a$ $64 : b$ $74 - c$



**1.** Вылічы.

30 : 6 4 дм · 9 49 : 7 7 дм · 8

**2.** На тры паліцы расставілі 15 кніг з казкамі і 9 кніг з вершамі пароўну. Па колькі кніг паставілі на кожную паліцу?



Капуста цяжэйшая за кабачок. Маса капусты большая за масу кабачка.



Кабачок лягчэйшы за капусту. Маса кабачка меншая за масу капусты.



Маса памідора і маса агурка аднолькавыя.

**1.** Параўнай цацкі па масе. Якая цацка цяжэйшая? Якая лягчэйшая?





**2.**
- Знайдзі значэнні выразу $c \cdot 7$, калі $c$ роўна 5; 6; 7; 8; 9.
- Знайдзі значэнні выразу $a : 9$, калі $a$ роўна 63; 54; 45; 36; 27.

**3.** Вылічы і выканай праверку.

| | | |
|---|---|---|
| 63 – 29 | 28 + 69 | 31 + 69 |
| 91 – 33 | 58 + 24 | 100 – 27 |

**4.** Запішы ў слупок. Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 48 + 29 | 72 + 13 | 41 – 18 | 58 – 29 |
| 88 – 78 | 65 – 35 | 33 + 25 | 75 + 18 |

5. Састаў выразы да задачы.
На 6 канвертаў наклеілі маркі, па $b$ марак на кожны канверт. Колькі ўсяго марак наклеілі?
Знайдзі значэнні выразу, калі $b$ роўна 2; 3; 4.

6. У адной бочцы было 25 л вады. Гэта на 13 л менш, чым было ў другой бочцы. Колькі літраў вады было ў абедзвюх бочках?

7. Рашы задачу, выкарыстоўваючы адказ задачы 6.
Усю ваду з дзвюх бочак разлілі ў вёдры, па 7 л у кожнае вядро. Колькі вёдзер напоўнілі?

8. Ці хопіць агароджы даўжынёй 40 м для ўчастка квадратнай формы з даўжынёй стараны 80 дм?

9. Метр шоўку ў чатыры разы даражэйшы за метр саціну. Што даражэй: 16 м саціну ці 4 м шоўку?

? Знайдзі значэнні выразу 35 + $c$, калі $c$ роўна 0; 35; 65.



1. Знайдзі значэнні выразаў $5 \cdot b$ і $36 : b$, калі $b$ роўна 4; 6; 9.

2. Бабулі 63 гады, а ўнуку 7 гадоў. На колькі гадоў бабуля старэйшая за ўнука? У колькі разоў унук малодзейшы за бабулю?



Прачытай некалькі лацінскіх літар.
Якія з іх ты ведаеш?

| A | B | C | D | K | L | M | N | O | P |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| а | бэ | цэ | дэ | ка | эл | эм | эн | о | пэ |




адрэзак *AB*




прамая *CD*




вугал *LKM*




ломаная *MNOP*




трохвугольнік *ABC*

**1.** Назаві фігуры.













**2.** У ломанай *KLMN* усе звёны маюць даўжыню 23 см. Знайдзі даўжыню гэтай ломанай.

**3.** Параўнай.

4 дм 8 см ? 84 см
1 м ? 10 дм

4 дм ? 45 см
3 дм 1 см ? 4 дм

**4.** Параўнай прадметы па масе. Што цяжэйшае? Што лягчэйшае?





**5.** Знайдзі значэнні выразаў.

| | | |
|---|---|---|
| $8 \cdot 2$ | $24 : 3$ | $9 + (92 - 70)$ |
| $2 \cdot 3$ | $14 : 7$ | $65 - (70 - 53)$ |
| $6 \cdot 2$ | $32 : 8$ | $(100 - 66) + 9$ |

**6.** Знайдзі значэнні выразу $a \cdot 5$ пры $a$, роўным 2; 3; 4; 5; 6; 7; 8; 9.

**7.** Выберы выраз, які з’яўляецца рашэннем задачы. Знайдзі яго значэнне, калі $b$ роўна 10.
Купілі 6 набораў фламастараў, па 4 фламастары ў кожным наборы, і $b$ алоўкаў. Колькі ўсяго фламастараў і алоўкаў купілі?

$4 \cdot 6$ $\quad$ $4 \cdot 6 + b$ $\quad$ $4 + 6 + b$ $\quad$ $4 \cdot 6 - b$

**8.** Сума трох лікаў роўная 75. Сума першага і другога роўная 60, а сума першага і трэцяга роўная 39. Знайдзі гэтыя лікі.


Прачытай лацінскія літары: *A, B, C, D, K, L, M, N.*



**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

$7 \cdot 9 + 13$ $\quad$ $40 : 5 + 30$ $\quad$ $48 : 8 + 94$

**2.** У пяці каробках па 9 кубікаў. Для пабудовы вежы дзеці ўзялі з кожнай каробкі па 1 кубіку. Колькі кубікаў засталося ў каробках?

**1.** Састаў выраз і знайдзі дзель двух лікаў. У колькі разоў адзін лік большы або меншы за другі?










**2.** Знайдзі значэнні выразаў.
$a \cdot 6$, калі $a$ = 5; 6; 7; 8; 9;
$b : 8$, калі $b$ = 16; 24; 32; 40; 48.

**3.** Якія лікі прапушчаны? Састаў роўнасці.










**4.** Выберы схему. Рашы задачу.
У Пеці 17 машынак. Калі ён падорыць брату Максіму 2 машынкі, то ў іх машынак стане пароўну. Колькі машынак у Максіма зараз?






**5.** Складзі задачу. Запішы рашэнне выразам. Знайдзі адказ, калі $a$ роўна 20; 24; 12.

| Кніг у адным рукзаку | Колькасць рукзакоў | Усяго кніг |
|---|---|---|
| 4 | ? | $a$ |

Складзі дзве адваротныя задачы.

**6.** Даўжыні звёнаў ломанай *LMNO* роўныя 12 дм, 13 дм, 14 дм. Знайдзі даўжыню гэтай ломанай.

**7.** Рашы задачу, выкарыстоўваючы адказ папярэдняй задачы.
Якой стане даўжыня ломанай *LMNO*, калі кожнае яе звяно павялічыць на 2 дм?

**8.** Параўнай прадметы па масе. Што цяжэйшае — гарбуз ці дыня?




**9.** У пакеце 4 чырвоныя і 4 жоўтыя яблыкі. Колькі яблыкаў трэба ўзяць з заплюшчанымі вачыма з пакета, каб абавязкова хаця б адзін яблык быў чырвоны?





**1.** Вылічы ў слупок.

| | |
|---|---|
| 90 – 52 | 12 + 29 + 33 |
| 67 – 19 | 53 + 26 + 15 |
| 43 + 38 | 49 + 11 + 24 |

**2.** Купілі 12 груш, а ківі на 6 менш. Усе фрукты расклалі на 3 талеркі пароўну. Колькі фруктаў аказалася на кожнай талерцы?



Растлумач і запомні.



$8 \cdot 8 = 64$
$8 \cdot 9 = 72$
$9 \cdot 9 = 81$

$9 \cdot 8 = 72$

$64 : 8 = 8$
$72 : 8 = 9$
$81 : 9 = 9$

$72 : 9 = 8$

**1.** Састаў роўнасці.

| Множнік | 8 | ? | ? | 7 | Дзель |
|---|---|---|---|---|---|
| Множнік | ? | 9 | 8 | ? | Дзельнік |
| Здабытак | 72 | 81 | 64 | 56 | Дзялімае |

**2.** • Знайдзі здабытак лікаў 3 і 8; дзель лікаў 36 і 6. У колькі разоў здабытак лікаў 3 і 8 большы, чым дзель лікаў 36 і 6?

• Знайдзі рознасць лікаў 45 і 40; суму лікаў 13 і 12. У колькі разоў рознасць лікаў 45 і 40 меншая, чым сума лікаў 13 і 12.

**3.** Устаў прапушчаныя лікі, каб няроўнасці былі правільныя. Колькі такіх лікаў?

$? + 16 < 2 \cdot 9$    $? - 1 < 27 : 9$

$8 - ? > 3 \cdot 2$    $6 \cdot 3 - ? > 7 \cdot 2$

**4.** Каб добра адпачыць, чалавек павінен спаць ноччу не менш за 8 гадзін. Колькі гадзін трэба праспаць чалавеку за 8 начэй?

**5.** Няхай Жэня заснуў у 22 г 10 мін і праспаў 8 гадзін. На якім гадзінніку паказана, а якой гадзіне Жэня заснуў? На якім — калі прачнуўся?



**6.** Дашы 3 гады. Яна на 5 гадоў маладзейшая за Паліну. Мама Дашы і Паліны ў 4 разы старэйшая за Паліну. Колькі гадоў маме?

**?** Прылічвай па восем, пачынаючы ад ліку восем да ліку восемдзесят.
Адлічвай па 9, пачынаючы ад ліку дзевяноста.



**1.** Састаў адпаведныя роўнасці.










**2.** Будаўнікі працавалі на адной будоўлі 9 дзён. Гэта ў 7 разоў менш таго часу, што яны працавалі на другой будоўлі. Колькі дзён працавалі будаўнікі на дзвюх будоўлях?



Калі ў выразе НЯМА ДУЖАК і ён утрымлівае толькі **множанне** і **дзяленне**, то дзеянні выконваюць па парадку злева направа.

① ②
6 : 2 · 5

**1.** Прачытай і параўнай выразы. Вызнач парадак выканання дзеянняў і знайдзі значэнні выразаў.

| | | |
|---|---|---|
| 36 – 9 + 5 | 40 + 20 + 20 | 54 – 9 – 3 |
| 36 : 9 · 5 | 4 · 2 · 2 | 54 : 9 : 3 |

**2.** На колькі адзін лік большы або меншы за другі? У колькі разоў адзін лік большы або меншы за другі?

15 і 3    8 і 64    81 і 9    45 і 9

**3.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

| | | |
|---|---|---|
| 38 + ? = 100 | 4 · ? = 24 | ? · 5 = 40 |
| ? + 14 = 100 | 48 : ? = 6 | ? : 9 = 9 |

**4.** У першым, другім, трэцім і чацвёртым доме па 9 пад'ездаў. Колькі пад'ездаў у пятым доме, калі ўсяго ў гэтых дамах 46 пад'ездаў?

**5.** Змяні задачу 4 так, каб адказ атрымаўся большы.

**6.** Начарці адрэзкі *AB* і *KL* так, каб адзін з іх быў у 2 разы карацейшы за другі.

**7.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

51 см = 32 см + ? см
51 см = ? см + 28 см
51 см = 21 см + ? см

92 см = ? см + 24 см
92 см = 44 см + ? см
92 см = ? см + 58 см

**8.** Купілі 12 м чырвонай і 20 м жоўтай тасьмы для ўпрыгожвання 9 абрусаў. Ці хопіць гэтай тасьмы, калі на кожны абрус ідзе 4 м тасьмы?

**9.** Тата пасадзіў 5 вішань у рад праз аднолькавыя прамежкі. Адлегласць ад першай вішні да апошняй роўная 16 м. Якая адлегласць паміж дзвюма суседнімі вішнямі?

**10.** Маса адной морквы роўная масе дзвюх радысак. Што лягчэйшае: 4 морквы ці 7 радысак?



? Вызнач парадак выканання дзеянняў і вылічы.

100 – 99 + 0

72 : 8 · 3



**1.** Пазнач парадак выканання дзеянняў і знайдзі значэнні выразаў.

2 · 4 · 7

2 · 9 : 6

24 : 6 : 2

**2.** Дзянісу 13 гадоў, а тату 40 гадоў. На колькі гадоў тата быў старэйшы за Дзяніса 4 гады таму назад? У колькі разоў тата быў старэйшы за Дзяніса 4 гады таму назад?






4 + 5 · 3



24 – 2 · 4

Калі ў выразе НЯМА ДУЖАК і ён утрымлівае ўсе чатыры дзеянні, то спачатку выконваюць множанне або дзяленне (злева направа), а потым складанне або адніманне (злева направа).

| ② | ① | | ② | ① | | ① | ② | | ① | ② |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 16 – 2 · 5 | | | 18 + 9 : 3 | | | 5 · 2 + 25 | | | 21 : 7 – 3 | |

**1.** Чым падобныя выразы? Чым адрозніваюцца? Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 35 : 5 · 2 | 20 : 5 · 2 | 60 + 20 – 4 |
| 35 : 5 + 2 | 20 – 5 · 2 | 60 + 20 : 4 |

**2.** Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.

| Памяншаемае | 54 | 43 | 22 | 48 |
|---|---|---|---|---|
| Аднімаемае | 3 · 7 | 64 : 8 | 2 · 4 | 72 : 9 |

**3.** Знайдзі заканамернасць і прадоўжы рад лікаў.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 9 | 18 | 27 | ? | ? | ? | ? | ? | ? |
| 72 | 64 | 56 | ? | ? | ? | ? | ? | ? |

**4.** У кастрычніку ў першыя два тыдні была сонечная пагода, а астатнія дні былі пахмурныя. Колькі пахмурных дзён было ў кастрычніку?

КАСТРЫЧНІК

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ПН | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| АЎТ | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| СР | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| ЧЦ | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| ПТ | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| СБ | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| НДЗ | 6 | 13 | 20 | 27 | |

**5.** Растлумач з дапамогай схемы розныя спосабы рашэння задачы.
З адной стаянкі паехала 8 машын, а з другой — у 3 разы больш. Колькі ўсяго машын паехала?

1) 8 · 3 = 24 (...)
2) 24 + 8 = 32 (...)

1) 1 + 3 = 4 (...)
2) 8 · 4 = 32 (...)




Змяні ўмову задачы так, каб адказ атрымаўся большы.

**6.** Рашы задачу рознымі спосабамі.
Колькі метраў тканіны пайшло на сукенкі, калі спачатку зрасходавалі 6 м тканіны, а потым у 5 разоў больш?


Вызнач парадак выканання дзеянняў і вылічы.

100 – 10 : 5    8 : 2 + 10


**1.** Пазнач парадак выканання дзеянняў і знайдзі значэнні выразаў.
2 · 4 : 8    12 + 4 · 3    64 : 8 – 0

**2.** У ломанай *ABCD* даўжыня звяна *AB* роўная 12 дм, што ў 2 разы больш за даўжыню звяна *BC*. Даўжыня звяна *CD* роўная 18 дм. Знайдзі даўжыню ломанай *ABCD*.



Калі ў выразе ЁСЦЬ ДУЖКІ і ён утрымлівае ўсе чатыры дзеянні, то дзеянні ў дужках выконваюць першымі.

40 : (18 – 10) — (2) (1)      (43 – 38) · 7 — (1) (2)

**1.** Пазнач парадак выканання дзеянняў і знайдзі значэнні выразаў.

27 + 13 – 3
(27 + 13) – 3
27 + (13 – 3)

45 – 20 + 12
45 – (20 + 12)
(45 – 20) + 12

64 – 24 – 13
64 – (24 – 13)
(64 – 24) – 13

**2.** Пазнач парадак выканання дзеянняў і знайдзі значэнні выразаў.

63 : (18 – 9)
49 : (21 – 14)
28 : (16 – 12)

(54 – 50) · 9
8 · (2 + 5)
(59 + 4) : 9

42 : 6 · 7
48 : 8 + 47
45 : 5 · 4

**3.** Параўнай.

2 · 8 ? 27 – 7
4 · 9 ? 38 + 2
3 · 6 ? 38 – 20

48 : 6 ? 48 : 8
15 : 5 ? 20 : 5
18 : 3 ? 18 : 9

**4.** Назаві, якія лікі прапушчаны.

Лік ? на 4 больш за здабытак лікаў 2 і 6.

Лік ? на 5 менш за здабытак лікаў 4 і 5.

Рознасць лікаў 60 і ? роўная дзелі лікаў 45 і 5.

Сума лікаў 34 і ? роўная здабытку лікаў 9 і 5.

**5.** На колькі адзін лік большы або меншы за другі? У колькі разоў адзін лік большы або меншы за другі?

45 і 5 | 3 і 18 | 24 і 6 | 5 і 10

**6.** Састаў выраз, які будзе рашэннем задачы.
Іван кожным ранкам падцягваецца на турніку 5 разоў, а ўвечары — $c$ разоў. Колькі разоў Іван падцягнецца на турніку за тыдзень?

**7.** На першай талерцы на 5 цукерак больш, чым на другой, а на трэцяй — на 7 цукерак больш, чым на першай. На якой талерцы цукерак больш, на другой ці на трэцяй, і на колькі?

**?** Вызнач парадак выканання дзеянняў і вылічы.

$10 + 81 : 9$ | $64 : (98 - 90)$



**1.** Састаў выразы. Знайдзі іх значэнні.
- Дзель лікаў 21 і 7 павялічыць у 9 разоў.
- Здабытак лікаў 6 і 3 паменшыць у 2 разы.
- Здабытак лікаў 4 і 4 паменшыць у 8 разоў.
- Дзель лікаў 72 і 8 павялічыць у 9 разоў.

**2.** У аўтобусе было 36 пасажыраў. Пасля таго як частка пасажыраў выйшла, у аўтобусе засталося 16 пасажыраў. Колькі пасажыраў выйшла з аўтобуса?

**1.** Знайдзі заканамернасць і прадоўжы рад лікаў.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | 10 | 15 | ? | ? | ? | ? | ? | ? |
| 7 | 14 | 21 | ? | ? | ? | ? | ? | ? |
| 72 | 64 | 56 | ? | ? | ? | ? | ? | ? |

**2.** Здабытак якіх лікаў роўны 12, 24, 36?

**3.** Знайдзі значэнні выразаў.

93 – (46 + 19)  (28 + 33) – 48  68 – (44 – 19)
64 – (72 – 36)  15 + (80 – 36)  (60 + 6) – 47

**4.** Знайдзі значэнні выразаў.

18 : 6 · 8  3 · 8 : 6  48 : 6 · 4
54 : 6 : 3  2 · 2 · 7  27 : 9 · 4
36 : 6 · 7  42 : 6 · 8  49 : 7 · 2

**5.** Вылічы.

(34 + 38) : 8  81 : (71 – 62)  52 – 5 · 8
4 · (52 – 44)  (93 – 84) · 5  56 : 8 + 1

**6.** Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.

- Рознасць лікаў 60 і 30 паменшыць у 6 разоў.
- Здабытак лікаў 8 і 7 паменшыць на 47.
- Дзель лікаў 49 і 7 павялічыць у 9 разоў.
- Лік 27 павялічыць на дзель лікаў 36 і 6.

**7.** Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.

| $a$ | 39 | 51 | 63 | 24 | 45 |
|---|---|---|---|---|---|
| $37 + a$ | ? | ? | ? | ? | ? |
| $100 - a$ | ? | ? | ? | ? | ? |

**8.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

7 · 8 – ? = 8
45 : 9 + ? = 30
6 · 6 + ? = 42

20 + 18 – ? = 8
85 – 80 + ? = 72
92 – 72 + ? = 55

**9.** Запішы ў слупок. Вылічы і выканай праверку.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 47 – 9 | 100 – 47 | 27 + 19 | 58 + 24 |
| 56 – 39 | 83 – 59 | 24 + 76 | 9 + 72 |

**10.** Назаві ўсе лікі ад 40 да 50, якія дзеляцца на 6. Павяліч гэтыя лікі на 50. Паменшы астатнія лікі на 40.

**11.** Устаў прапушчаныя лікі, каб запісы былі правільныя.

36 + ? < 42
72 – ? > 68
? – 44 < 11

90 > 86 + ?
55 < ? – 1
100 > 90 + ?

**12.** У стосе было 27 сшыткаў. Шасцёра вучняў узялі па 4 сшыткі. Колькі сшыткаў засталося ў стосе?

**13.** Планавалі адрамантаваць 4 м паркавай дарожкі, а адрамантавалі ў 3 разы больш. Колькі метраў паркавай дарожкі адрамантавалі?

**14.** Свеце 18 гадоў. Яна ў 3 разы старэйшая за свайго брата. Колькі гадоў брату?

**15.** Складзі і рашы задачу. Складзі адваротныя задачы.

| Зрабіў дэталей за 1 гадзіну (шт.) | Час працы (г) | Усяго зрабіў дэталей (шт.) |
|---|---|---|
| ? | 6 | 48 |

**16.** Выберы схему. Рашы задачу.
Ад куска шоўку даўжынёй 30 м адрэзалі 8 м тканіны, а ад куска сацiну такой жа даўжыні адрэзалі 10 м тканіны. Якой тканіны засталося больш? На колькі метраў больш?







**17.** Растлумач, што абазначаюць выразы.
Пеця з'ехаў з гары на лыжах $a$ разоў, на снаўбордзе $b$ разоў і на санках 7 разоў.



$a + b$ $a + b + 7$

$b : 7$ $b - 7$

Рашы задачу, калі $a$ роўна 15, $b$ роўна 14.

**18.** Складзі і рашы задачы.






**19.** Каб прыехаць на дачу, сям'я едзе па горадзе 15 мін і столькі ж мінут едзе за горадам да дачы. Па дарозе на дачу сям'я заехала ў супермаркет і правяла там 30 мін. Колькі часу спатрэбілася сям'і, каб даехаць да дачы?

**20.** Сям'я выехала на дачу ў 18 г. Які з гадзіннікаў паказвае, а якой гадзіне сям'я паехала на дачу? Прыехала на дачу?










**21.** Параўнай прадметы па масе. Што цяжэйшае? Што лягчэйшае?




**22.** Начарці ломаную *MNOP*, даўжыня першага звяна якой 2 см, што на 3 см менш за даўжыню другога звяна. Трэцяе звяно ломанай роўнае суме даўжынь першага і другога звёнаў.



Палавіна, або адна другая частка шакаладкі.






Трэць, або адна трэцяя частка шакаладкі.






Чвэрць, або адна чацвёртая частка шакаладкі.






У запісах віду

$$\frac{1}{2},\ \frac{1}{3},\ \frac{1}{4},\ \ldots$$

лік, запісаны пад лініяй, абазначае,
на колькі роўных частак падзялілі;
лік, запісаны над лініяй, абазначае,
колькі такіх частак узялі.

**1.** Якая частка фігуры не зафарбавана?













**2.** Дапоўні словамі «больш» або «менш» запісы так, каб яны былі правільныя.

$\frac{1}{2}$ адрэзка … $\frac{1}{3}$ адрэзка



$\frac{1}{5}$ адрэзка … $\frac{1}{4}$ адрэзка



$\frac{1}{3}$ адрэзка … $\frac{1}{5}$ адрэзка



**3.** У колькі разоў мультфільм ішоў даўжэй, чым прагноз надвор’я, калі мультфільм глядзелі 40 мін, а прагноз надвор’я 5 мін?

**4.** Вылічы.

3 дм 4 см + 5 дм 9 см    8 дм 6 см – 4 дм 3 см
4 дм 6 см + 3 дм 7 см    6 дм 3 см – 2 дм 7 см



Выберы схему, на якой выдзелена адна пятая частка адрэзка.

1 

2 



**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

$8 \cdot 5 - 11$    $37 - 14 : 2$    $49 : (83 - 76)$

**2.** Міша схадзіў да калодзежа 6 разоў і кожны раз прыносіў па два вядры вады. Маша схадзіла па ваду 3 разы і насіла па аднаму вядру. Колькі вёдзер вады прынеслі Міша і Маша разам?



Было 6 кубікаў. Узялі $\frac{1}{3}$ частку кубікаў. Колькі кубікаў узялі?




Разважай так:
Трэба знайсці адну трэцюю частку ўсіх кубікаў. Для гэтага 6 падзялю на 3.

**1.** У класе 24 вучні. Адна чацвёртая частка ўсіх вучняў займаецца тэнісам. Колькі вучняў займаецца тэнісам?




**2.** На колькі частак падзелены кожны круг? Ці можна для кожнага круга назваць, якая яго частка зафарбавана?












З дапамогай рысунка дапоўні словамі «больш за» або «менш за» запісы так, каб яны былі правільныя.

$\frac{1}{2}$ круга ? $\frac{1}{3}$ круга

$\frac{1}{8}$ круга ? $\frac{1}{4}$ круга

$\frac{1}{4}$ круга ? $\frac{1}{2}$ круга

$\frac{1}{8}$ круга ? $\frac{1}{3}$ круга

**3.** Знайдзі значэнні выразаў, калі $a$ роўна 4.

$a \cdot 6 : 3$  $24 : a + 3$  $62 - a + 42$  $21 + (12 - a)$

4. Пазнач парадак дзеянняў. Знайдзі значэнні выразаў.
(24 + 48) : 9 · 7
27 : 3 · (48 – 39)
63 : (52 – 45) · 4
8 · 7 + 6 · 4

5. Рашы задачу рознымі спосабамі.
Колькі цукерак у дзвюх каробках, калі ў адной з іх 8 цукерак, а ў другой — у 4 разы больш цукерак?

6. Параўнай прадметы па масе. Што цяжэйшае? Што лягчэйшае?





7. Іван жыве ў дзевяціпавярховым доме. На кожным паверсе па 4 кватэры. У якім пад'ездзе і на якім паверсе жыве Іван, калі нумар яго кватэры 86?

Было 8 яблыкаў. З'елі чвэрць яблыкаў. Колькі яблыкаў з'елі?



1. Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Памяншаемае | 3 · 7 | 24 | 19 | 100 |
| Аднімаемае | 15 | 24 : 8 | 2 · 6 | 72 : 8 |

2. Вучні трэцяга класа зрабілі 8 кармушак для птушак. Гэта на 16 кармушак менш, чым зрабілі чацвёртакласнікі. У колькі разоў больш кармушак зрабілі чацвёртакласнікі за трэцякласнікаў?



Зялёныя кубікі — гэта $\frac{1}{2}$ частка ўсіх кубікаў. Колькі ўсяго кубікаў?




Разважай так:

Вядома, што $\frac{1}{2}$ частка кубікаў — гэта 3 кубікі.

Значыць, у дзвюх такіх частках у 2 разы больш кубікаў. Трэба 3 памножыць на 2.

**1.** Адна пятая частка ўсіх дрэў у садзе — гэта 8 сліў. Колькі ўсяго дрэў у садзе?




**2.** Выберы схему. Рашы задачу.

У кошыку 5 баравікоў. Гэта $\frac{1}{3}$ частка ўсіх грыбоў у кошыку. Колькі ўсяго грыбоў у кошыку?












**3.** У букеце 15 гваздзікоў. Чырвоныя гваздзікі складаюць $\frac{1}{3}$ частку ўсіх гваздзікоў у букеце. Колькі чырвоных гваздзікоў у букеце?

**4.** Выпішы правільныя роўнасці.

$100 - 80 = 5 \cdot 5$ $\quad$ $24 + 25 = 7 \cdot 8$

$24 - (71 - 59) = 3 \cdot 4$ $\quad$ $81 : 9 = 27 : 3$

**5.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

$2 \cdot ? = 16$ $\quad$ $3 \cdot ? = 24$ $\quad$ $? \cdot 6 = 54$

$30 : ? = 5$ $\quad$ $27 : ? = 9$ $\quad$ $? : 3 = 7$

**6.** Шэсць турыстаў плылі на дзвюх лодках 4 дні, потым столькі ж дзён ехалі на веласіпедах. Кожны дзень турысты адпачывалі днём па 2 гадзіны. Колькі гадзін яны затрацілі на дзённы адпачынак за ўвесь паход?

**7.** Колькі можна скласці двухзначных лікаў, сума лічбаў якіх роўная 7?

**?** Трэць даўжыні дарожкі — 3 м. Як знайсці даўжыню ўсёй дарожкі?



**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

$(18 + 2) : 5$ $\quad$ $7 \cdot (27 - 23)$ $\quad$ $28 + 3 \cdot 5$

**2.** Коля прабег 40 м, а Сяргей у 5 разоў менш метраў. На колькі метраў больш прабег Коля, чым Сяргей?



| | | |
|---|---|---|
| 30 + ? = 35 | $30 + x = 35$ | $x$, $y$ — лацінскія літары |
| ? · 6 = 54 | $y \cdot 6 = 54$ | $x$ — чытаем «ікс» |
| 99 – ? = 80 | $99 - x = 80$ | $y$ — чытаем «ігрэк» |

**Ураўненне** — гэта роўнасць з пераменнай.
Рашыць ураўненне — значыць знайсці значэнне пераменнай, пры якім роўнасць будзе правільная.

**1.** Падбяры такое значэнне пераменнай, пры якім роўнасць будзе правільная. Выканай праверку і запішы па ўзоры.

$25 + a = 50$
$\underline{a = 25}$
$25 + 25 = 50$
$50 = 50$

$25 + a = 50$ $\quad$ $100 - x = 40$
$c + 44 = 88$ $\quad$ $y - 0 = 18$

**2.** Падбяры такое значэнне пераменнай, пры якім роўнасць будзе правільная. Выканай праверку і запішы па ўзоры.

$5 \cdot a = 45$
$\underline{a = 9}$
$5 \cdot 9 = 45$
$45 = 45$

$5 \cdot a = 45$ $\quad$ $c \cdot 9 = 63$
$28 : x = 4$ $\quad$ $y : 1 = 8$

**3.** Вылічы. Адказ выразі ў гадзінах і мінутах.
45 мін – 40 мін + 79 мін
70 мін – 20 мін – 8 мін
65 мін – 65 мін + 99 мін
100 мін – 48 мін + 17 мін

**4.** Складзі пытанне і рашы задачу.
З 18 маткоў шарсцяной пражы бабуля звязала рукавічкі. На кожную пару рукавічак пайшло па 3 маткі. Унукам бабуля падарыла 4 пары рукавічак.

**5.** Было 24 м тканіны. З трэцяй часткі тканіны пашылі сукенкі. Колькі метраў тканіны пайшло на сукенкі?

**6.** Даўжыня стараны аднаго квадрата роўная 7 см. Даўжыня стараны другога квадрата 4 см. На колькі сантыметраў перыметр аднаго квадрата большы за перыметр другога квадрата?

**7.** Ігар з дапамогай палачак даўжынёй 5 см выклаў квадрат са стараной 20 см і раздзяліў яго на роўныя квадрацікі са стараной 5 см. Колькі такіх палачак спатрэбілася Ігару?

**8.** Начарці ломаную, даўжыня якой вылічваецца так: $3 \cdot 2 + 4 + 1$.


Выберы запіс, які з'яўляецца ўраўненнем.
$a + 15$ $\quad$ $a + 15 = 27$ $\quad$ $12 + 15 = 27$



**1.** Знайдзі значэнні выразаў.
$6 \cdot 8 - 36$ $\quad$ $42 : 7 + 72 : 9$ $\quad$ $34 + 17 - 6 \cdot 3$

**2.** За гадзіну ў дзіцячым магазіне прадалі 18 цацак. Машынкі складаюць $\frac{1}{3}$ частку гэтых цацак. Колькі прадалі машынак? Колькі прадалі астатніх цацак?



$12 + x = 31$
$x = 31 - 12$
$\underline{x = 19}$
$12 + 19 = 31$
$31 = 31$




Разважай так:
Невядомы лік $x$ — гэта другое складаемае. Каб знайсці невядомае складаемае, трэба ад сумы адняць вядомае складаемае. Ад 31 аднімаю 12, атрымліваю 19.

$72 - y = 55$
$y = 72 - 55$
$\underline{y = 17}$
$72 - 17 = 55$
$55 = 55$




Разважай так:
Невядомы лік $y$ — гэта аднімаемае. Каб знайсці невядомае …, трэба ад памяншаемага адняць … . Ад 72 аднімаю …, атрымліваю … .

**1.** Рашы ўраўненні.

$25 + a = 30$ $\quad$ $98 - x = 40$
$c + 32 = 76$ $\quad$ $y - 18 = 35$

**2.** Вылічы.

$22 + 32 : 4 - 29$ $\quad$ $100 - 5 \cdot 9 - 55$
$7 \cdot 8 + 48 : 8$ $\quad$ $74 - 3 \cdot 8 : 6$

**3.** Дзіма прачытаў 7 старонак кнігі. Гэта чвэрць таго, што прачытала яго сястра. Колькі старонак прачытала сястра?



**4.** Складзі і рашы задачу.

Было — ?
Паехала — 2 разы па 8
Засталося — 12

**5.** Урок доўжыцца 45 мін, а перапынак — 10 мін. Колькі мінут праходзіць ад пачатку аднаго ўрока да пачатку наступнага ўрока?

**6.** Няхай урок пачынаецца ў 8 г 30 мін. На якім з гадзіннікаў паказана, калі пачынаецца ўрок? Калі заканчваецца гэты ўрок? Калі пачынаецца наступны ўрок?






? Як знайсці значэнне пераменнай ва ўраўненнях?

$36 + c = 90$ $54 - x = 12$



**1.** Рашы ўраўненні.
$x + 3 = 18$ $48 - y = 37$ $c - 99 = 0$

**2.** У класе 8 дзяцей займаюцца плаваннем. Гэта $\frac{1}{3}$ частка ўсіх вучняў. Колькі вучняў у класе?



Што лягчэйшае — мяч ці машына?





Разважай так:
Маса мяча роўная масе трох аднолькавых кубікаў. Маса машынкі роўная масе 5 такіх кубікаў. 3 менш, чым 5. Значыць, маса мяча меншая, чым маса машынкі.

**1.** Што цяжэйшае? Што лягчэйшае?







**2.** Рашы ўраўненні.

$27 + a = 100$ $\quad$ $38 - x = 29$ $\quad$ $100 - x = 100$

$c + 15 = 84$ $\quad$ $y - 42 = 38$ $\quad$ $b + 0 = 51$

**3.** Знайдзі $\frac{1}{7}$ частку даўжыні адрэзка, роўнага 14 см; 21 см; 28 см; 35 см.

**4.** Знайдзі даўжыню адрэзка, калі яго пятая частка роўная 2 см; 4 см; 6 см; 8 см.

**5.** Назаві прамыя вуглы. Назаві непрамыя вуглы.












**6.** Было 34 м тканіны. Для пашыву аднаго касцюма трэба 4 м тканіны. Ці хопіць тканіны, каб пашыць 8 касцюмаў?

**7.** Выберы пытанне і рашы задачу.
Коля ідзе ад дома да школы 8 мін. Гэта на 16 мін менш, чым шлях ад школы да парку.

Колькі мінут ідзе Коля ад школы да кінатэатра?

Колькі мінут трэба затраціць Колю, каб дайсці ад дома да школы і вярнуцца назад?

У колькі разоў больш мінут трэба затраціць на шлях ад школы да парку, чым ад школы да дома?

**8.** Параўнай.

(52 + 12) : 8 ? 8 — 95 ? 100 – (90 – 6)

80 – 9 · 6 ? 20 — 81 ? 72 : 8 · 9

**9.** Таня адзначыла на прамой за́пар 4 пункты на адлегласці 2 см адзін ад аднаго. Якая адлегласць ад першага пункта да апошняга?



У цябе ёсць дзве розныя цукеркі і некалькі аднолькавых гарошын. Як з дапамогай рычажных вагаў даведацца, якая цукерка цяжэйшая? Прапануй розныя спосабы.



**1.** Рашы ўраўненні.

$12 + x = 25$ $37 - y = 30$ $a - 15 = 8$

**2.** Адрэзалі кусок шоўку даўжынёй 5 м і кусок шэрсці ў 3 разы даўжэйшы. На колькі метраў кусок шэрсці большы за кусок шоўку?

# Урок 42

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

$9 \cdot 6 - 13$ $\quad 42 : (83 - 76)$ $\quad 34 + 8 \cdot 4$

$3 \cdot 7 + 25$ $\quad 8 \cdot (23 - 14)$ $\quad 24 + 36 : 6$

$29 - 3 \cdot 5$ $\quad 100 - 28 : 7$ $\quad 57 - 20 : 4$

**2.** Рашы ўраўненні.

$41 + a = 100$ $\quad 52 - x = 34$ $\quad c + 28 = 74$

$y - 36 = 64$ $\quad b + 12 = 99$ $\quad 44 - d = 11$

**3.** Падбяры такія значэнні пераменных, пры якіх роўнасці будуць правільныя.

$20 : x = 4$ $\quad 5 \cdot a = 45$ $\quad c : 6 = 6$

**4.** Выберы схему. Рашы задачу.
Вышыня бярозы 29 м. Сасна на 12 м вышэйшая за бярозу і на 6 м вышэйшая за дуб. Што вышэйшае — бяроза ці дуб? На колькі метраў вышэйшае?

| | | | |
|---|---|---|---|
| Схема 1 | | | |
| Схема 2 | | | |
| Схема 3 | | | |

**5.** Параўнай прадметы па масе. Што лягчэйшае — кекс ці торт?




**6.** Складзі пытанне. Рашы задачу.
Урок доўжыцца 45 мін. Пятую частку ўрока дзеці рашалі задачу, а дзявятую частку ўрока — ураўненне.

**7.** Маме 32 гады, дачцэ 8 гадоў. Колькі гадоў будзе маме, калі дачцэ будзе 12 гадоў?

**8.** Поезд ідзе ад Мінска да Масквы 10 гадзін. Ад Мінска да Смаленска поезд ідзе $\frac{1}{2}$ частку гэтага часу. Колькі часу займае шлях ад Мінска да Смаленска?



**1.** Састаў роўнасці.

| $c$ | 4 | 6 | 8 |
|---|---|---|---|
| $c \cdot 6 + 29$ | ? | ? | ? |

**2.** Знайдзі перыметры трохвугольнікаў.







Вугал *ABC* — востры




Вугал *KLM* — тупы




**1.** Назаві прамыя вуглы. Колькі вострых вуглоў? Колькі тупых вуглоў?




**2.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

56 + 27 + ? = 86

69 – 26 + ? = 67

30 – 22 + ? = 64

84 – 5 + ? = 100

**3.** Знайдзі значэнні сумы і здабытку ліку 8 і $a$, калі $a$ роўна 3; 5; 7; 9.

**4.** Начарці ломаную *ABCD*, у якой даўжыня першага звяна 3 см, даўжыня другога звяна роўная трэцяй частцы даўжыні першага, а даўжыня трэцяга звяна 2 см.

**5.** Нарыхтавалі 4 двухлітровыя слоікі з сокам і 6 трохлітровых слоікаў з кампотам. Колькі літраў соку і кампоту нарыхтавалі?

| | Ёмістасць слоіка (л) | Колькасць слоікаў (шт.) | Ёмістасць усіх слоікаў (л) |
|---|---|---|---|
| Сок | 2 | 4 | ? |
| Кампот | 3 | 6 | ? |

(усяго: ?)

Што даведаемся спачатку?

Што даведаемся потым?




**6.** Турысты ў паходзе плылі па Дзвіне ў 3 шасцімесных лодках і ў 4 чатырохмесных лодках. Колькі ўсяго турыстаў было ў паходзе, калі ўсе месцы ў лодках былі занятыя?




Назаві фігуру. Назаві прамыя, тупыя і вострыя вуглы.



**1.** Выпішы ўраўненні, якія рашаюцца адніманнем. Рашы іх.

$x - 38 = 15$ $x + 72 = 99$ $42 - x = 19$

**2.** Саша вывучыў 15 новых французскіх слоў. Пятую частку слоў ён раніцай не помніў. Колькі слоў забыў Саша? Колькі слоў хлопчык запомніў?






Назаві трохвугольнікі, у якіх ёсць прамы вугал; тупы вугал. Назаві трохвугольнікі, у якога ўсе вуглы вострыя.

Трохвугольнік *ABC* — прамавугольны.
Трохвугольнік *KLM* — вастравугольны.
Трохвугольнік *NOP* — тупавугольны.

**1.** Назаві прамавугольны, вастравугольны, тупавугольны трохвугольнікі.




**2.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

1 м = 2 дм + ? дм
1 м = 3 дм 5 см + ? см
5 дм 4 см = ? см + 2 дм

100 см = 5 дм + ? см
4 дм 7 см = 1 м − ? см
81 см = 9 дм − ? см

**3.** Начарці ў сшытку адрэзак даўжынёй 12 см. Начарці адзін пад адным адрэзкі, роўныя: $\frac{1}{2}$ гэтага адрэзка, $\frac{1}{3}$ гэтага адрэзка, $\frac{1}{4}$ гэтага адрэзка, $\frac{1}{6}$ гэтага адрэзка.

**4.** Складзі і рашы задачу.

| | Гузікаў на адным вырабе | Колькасць вырабаў | Гузікаў на ўсіх вырабах |
|---|---|---|---|
| I | 6 | 5 | ? } ? |
| II | 8 | 7 | ? } |

**5.** Растлумач, што абазначаюць выразы.
Павел загрузіў з інтэрнэту 8 песень, Вадзім у $a$ разоў больш песень, чым Павел, а Стас $b$ песень.

$8 \cdot a$ $8 + b$ $8 \cdot a + b$ $8 \cdot a + 8 + b$

**6.** Павяліч у тры разы лікі: 2, 4, 7, 9.


Якія трохвугольнікі называюць прамавугольнымі? Чаму іх так называюць?


**1.** Знайдзі значэнне выразаў і выканай праверку.
74 – 35 59 + 34 65 – 29 93 – 38

**2.** Купілі 5 адрэзаў сіняй тасьмы па 8 м кожны і столькі ж адрэзаў чырвонай тасьмы па 4 м кожны. Колькі ўсяго метраў тасьмы купілі?






Для выканання арыфметычных дзеянняў з лікамі зручна карыстацца **калькулятарам.**

Для таго каб выканаць вылічэнні на калькулятары, неабходна:

1. Увесці з дапамогай лічбаў на клавіятуры калькулятара патрэбны лік. Гэты лік з'явіцца на экране калькулятара.
2. Націснуць кнопку са знакам арыфметычнага дзеяння, якое патрэбна выканаць:

   + складанне; × множанне;
   – адніманне; ÷ дзяленне.
3. Увесці з дапамогай лічбаў на клавіятуры другі лік.
4. Націснуць кнопку са знакам «роўна»: = .
5. Прачытаць лік, які з'явіўся на экране, — гэта і ёсць рэзультат выканання дзеяння.

**1.** Вылічы. Выканай праверку з дапамогай калькулятара.

83 – 26 56 + 39 77 – 49 52 + 19

**2.** Рашы ўраўненні.

$48 + x = 99$ $100 - a = 24$ $b - 21 = 49$

$c + 61 = 75$ $d - 37 = 54$ $40 - k = 19$

**3.** Параўнай.

6 · 7 ? 80 – 36 18 см : 6 ? 24 см : 8

3 · 8 ? 22 + 2 40 дм : 5 ? 45 дм : 9

5 · 6 ? 78 – 28 27 м : 3 ? 27 м : 9

**4.** Знайдзі $\frac{1}{5}$ ад 15 мін; 20 мін; 25 мін; 35 мін.

**5.** Дзядулю 64 гады, унучцы 8 гадоў. У колькі разоў унучка маладзейшая за дзядулю? Колькі гадоў будзе дзядулю, калі ўнучцы будзе 14 гадоў?

**6.** Электрычка адправілася з Мінска ў 17 г 5 мін і прыбыла ў Заслаўе ў 17 г 45 мін. Пятую частку часу электрычка стаяла на станцыях. Колькі часу стаяла электрычка?

**7.** Якая частка фігуры не зафарбавана?





**8.** Што цяжэйшае — лялька ці мячык?






**1.** Рашы ўраўненні.

$34 + x = 100$  $x - 14 = 39$  $53 - x = 27$

**2.** Знайдзі перыметр трохвугольніка са старанамі 3 дм, 38 см, 2 дм 5 см.



Замяні сумы здабыткамі. Знайдзі значэнні выразаў.

1 + 1 + 1 1 + 1 1 + 1 + 1 + 1 + 1 + 1

Пры множанні 1 на лік атрымліваецца лік, на які множылі.

$$1 \cdot a = a$$

Пры множанні ліку на 1 атрымліваецца лік, які множылі.

$$a \cdot 1 = a$$

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

1 · 4 (9 + 34) · 1 45 : 9 · 1

4 · 1 1 · (100 – 1) 1 · 49 : 7

**2.** Састаў лікавыя выразы. Знайдзі іх значэнні.

| $c$ | 3 | 5 | 6 | 8 | 1 |
|---|---|---|---|---|---|
| $32 + c \cdot 4$ | ? | ? | ? | ? | ? |
| $6 \cdot c - 6$ | ? | ? | ? | ? | ? |

**3.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

64 − 20 − ? = 12 34 + 58 − ? = 29

18 + 46 + ? = 100 96 − 27 + ? = 88

**4.** У баку было 80 л вады. Спачатку зрасходавалі 12 л, а потым узялі яшчэ 3 васьмілітровыя вядры вады. Колькі літраў вады засталося ў баку?

**5.** Пятая частка ўсіх вучняў класа займаецца ў секцыі па плаванні. Колькі дзяцей вучыцца плаваць, калі ў класе 25 вучняў?
Змяні лікі ва ўмове задачы так, каб адказ не змяніўся.

**6.** Начарці такую ломаную ў сшытку. Злучы пункты *A* і *K*. Зафарбуй жоўтым колерам $\frac{1}{8}$ частку фігуры, якая атрымалася. Зафарбуй чырвоным колерам $\frac{1}{4}$ частку фігуры *ABCDMK*. Знайдзі перыметр гэтага шасцівугольніка.




**7.** Бацьку завуць Аляксандр Пятровіч. Імя па бацьку дзеда Мацвеевіч. Сына назвалі ў гонар прадзеда. Як завуць сына і дзеда?

Які лік атрымаецца, калі 1 памножыць на 84? Калі 37 памножыць на 1?



**1.** Знайдзі значэнні выразаў.
(64 – 48) · 1 6 · 3 · 1 1 · 27 : 9

**2.** Дзіма мыў посуд 8 мін, а гуляў на двары 40 мін. У колькі разоў даўжэй Дзіма гуляў на двары, чым мыў посуд? Колькі мінут Дзіма ляпіў на двары снегавіка, калі на гэта ў яго пайшла восьмая частка часу прагулкі?



Замяні сумы здабыткамі. Знайдзі значэнні выразаў.

0 + 0    0 + 0 + 0 + 0    0 + 0 + 0 + 0 + 0 + 0

Пры множанні 0 на лік атрымліваецца 0.

$0 \cdot b = 0$

Пры множанні ліку на 0 атрымліваецца 0.

$b \cdot 0 = 0$

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

| | | |
|---|---|---|
| 0 · 9 | 15 · (0 + 1) | 13 · 0 + 99 |
| 7 · 0 | (100 – 85) · 0 | 0 · 68 – 22 |

**2.** Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Складаемае | 1 · 6 | 2 · 9 | 72 : 9 | 42 : 6 |
| Складаемае | 5 · 7 | 40 : 8 | 2 · 1 | 36 : 9 |

**3.** Выразі ў мінутах.

1 г 6 мін    1 г 29 мін    1 г 36 мін    1 г 40 мін

Выразі ў гадзінах і мінутах.

75 мін    82 мін    64 мін    93 мін

**4.** Коля чытаў па 8 старонак кнігі кожны дзень ад панядзелка да пятніцы ўключна. Колькі старонак у кнізе, калі ў суботу хлопчык прачытаў толькі адну старонку, а ў нядзелю ён прачытаў апошнія 10 старонак?

5. Даўжыня адной дарожкі 9 м, а даўжыня другой — у 3 разы большая. Ці хопіць 40 м бардзюрнай пліткі для рамонту дзвюх гэтых дарожак, калі гэту плітку трэба класці з абодвух бакоў кожнай дарожкі?



6. Складзі і рашы задачы.







7. Колькі маленькіх кубікаў патрэбна ўзяць Дзянісу, каб скласці адзін вялікі кубік?




Які лік атрымаецца, калі 0 павялічыць у 100 разоў? Чаму будзе роўны здабытак лікаў 50 і 0?



1. Знайдзі значэнні выразаў $a \cdot 3$ і $7 \cdot a$, калі $a$ роўна 2; 4; 1; 0.

2. Для ўпрыгожвання ёлкі купілі 35 цацак. Адна сёмая частка цацак — шары. Колькі ёлачных шароў купілі?



Каб вымераць масы прадметаў, выкарыстоўваюць спецыяльную мерку — **кілаграм**.




**1 кг**












Маса капусты 2 кілаграмы.
Маса гарбуза 3 кілаграмы.
Значыць, гарбуз цяжэйшы за капусту. Капуста лягчэйшая за гарбуз.

**1.** Якая маса кавуна? Якая маса ананаса?







**2.** Дапоўні ўмову задачы адказамі задання 1. Рашы задачу.
Тата купіў 3 кавуны і 2 ананасы. Якая маса ўсёй пакупкі?
Ці можа тата пароўну размеркаваць масу ўсёй пакупкі паміж правай і левай рукой, каб зручней было яе несці?

**3.** Геолагі былі ў экспедыцыі 4 тыдні. Сёмую частку часу яны правялі ў паяздах, а астатнюю частку — у палатачным лагеры. Колькі дзён правялі геолагі ў палатачным лагеры?

**4.** Знайдзі $\frac{1}{4}$ ад 16 кг; 24 кг; 28 кг; 32 кг.

**5.** Запішы выразы ў такім парадку, каб іх значэнні павялічваліся.

| | | |
|---|---|---|
| $48 + 39 + 2$ | $28 + 29 + 12 \cdot 1$ | $28 - (5 \cdot 4)$ |
| $7 \cdot 8 : 7 : 8$ | $(9 \cdot 7) \cdot 0$ | $48 + 4 \cdot 7$ |

**6.** Рашы ўраўненні.

| | | |
|---|---|---|
| $x - 8 = 0$ | $c + 1 = 12$ | $x - 11 = 15 - 15$ |
| $a + 0 = 10$ | $k - 1 = 0$ | $y + 16 = 10 + 6$ |

**7.** Устаў прапушчаныя лічбы.

$$\begin{array}{r} 5* \\ +\ *9 \\ \hline 83 \end{array} \qquad \begin{array}{r} *4 \\ +\ 4* \\ \hline 100 \end{array} \qquad \begin{array}{r} 4* \\ -\ *5 \\ \hline 28 \end{array} \qquad \begin{array}{r} *7 \\ -\ 3* \\ \hline 29 \end{array}$$

**8.**  Тры хлопчыкі ўдзельнічаюць у турніры па шашках. Кожны хлопчык сыграў па адной гульні з двума іншымі ўдзельнікамі. Колькі гульняў было сыграна?

Што лягчэйшае — 2 кг цыбулі ці 5 кг бульбы? 3 кг пуху ці 3 кг металу?



**1.** Вылічы.

| | |
|---|---|
| $62 + (6 \cdot 4) - 80$ | $15 \cdot 0 + 13 \cdot 1$ |
| $100 - 6 \cdot 9 + 54$ | $1 \cdot 84 - 0 \cdot 84$ |

**2.** Знайдзі трэць усіх цукерак, калі купілі 6 каробак па 20 цукерак у кожнай.






**Плошча** блакнота меншая за **плошчу** дзённіка.
**Плошча** сшытка большая за **плошчу** блакнота.
**Плошча** дзённіка роўная **плошчы** сшытка.

**1.** Плошча якой фігуры самая вялікая? Самая маленькая?




**2.** Якія фігуры выразаў Пеця?






**3.** Рашы ўраўненні.

$x + 38 = 50$ $\quad$ $y - 24 = 36$ $\quad$ $42 - c = 28$

$x - 38 = 50$ $\quad$ $y + 24 = 36$ $\quad$ $17 + c = 35$

**4.** Выкарыстоўваючы лікі ад 0 да 9, састаў усе правільныя няроўнасці: $4 \cdot a < 28$.

**5.** Састаў лікавыя выразы па схемах. Вылічы.







**6.** Што абазначаюць выразы да ўмовы задачы?
Купілі 5 пакетаў бульбы, па 8 кг у кожным пакеце, і 3 пакеты морквы, па 4 кг у кожным пакеце.

5 + 3 | 8 · 5 | 4 · 3 | 8 + 4 | 5 – 3 | 8 – 4

**7.** Міша і Лена выйшлі насустрач адно аднаму. Міша прайшоў да сустрэчы 54 м, а Лена — 32 м. Колькі метраў было паміж імі спачатку?




**?** Параўнай плошчы падручніка і сшытка. Якая плошча большая? Чаму?



**1.** Параўнай.

1 · 9 ? 9 · 1 8 · 2 ? 3 · 8

5 · 0 ? 1 · 5 7 · 3 · 0 ? 1 · 3 · 7

**2.** Маса пакета з мукой 2 кг. Купілі 9 пакетаў з мукой і пакет з бульбай масай 10 кг. Якая маса ўсёй пакупкі?



Плошча якога прамавугольніка большая — сіняга ці зялёнага?






Растлумач, як Пеця вызначыў, што плошча зялёнага прамавугольніка большая.




1. Параўнай плошчы прамавугольнікаў.



2. Знайдзі значэнні выразаў 35 + $a$ и 35 – $a$ пры $a$, роўным 12; 24; 30; 35.

3. Выканай дзеянні. Адказ запішы ў дэцыметрах і сантыметрах.

| | |
|---|---|
| 34 см + 29 см – 16 см | 10 дм – 78 см + 24 см |
| 1 м – 55 см + 18 см | 9 м – 5 дм – 21 см |

4. Адзін тайм гульні ў футбол доўжыцца 45 мін. Футбалісты ўжо гуляюць 30 мін. Колькі мінут засталося гуляць футбалістам, калі ў футболе два таймы?

**5.** Складзі і рашы задачу.

| | Маса 1 каробкі (кг) | Колькасць каробак (шт.) | Маса ўсіх каробак (кг) |
|---|---|---|---|
| Цукеркі | 9 | 4 | ? } ? |
| Пячэнне | 6 | 7 | ? } |

**6.** Даўжыня ломанай *KLMN* — 1 дм. У ломанай тры звяны. Вядома, што другое звяно на 1 см даўжэйшае за першае, а трэцяе звяно на 2 см даўжэйшае за другое. Знайдзі даўжыню кожнага звяна. Начарці такую ломаную.

**7.** У класе 19 вучняў і настаўніца. На свята ў клас прынеслі 4 аднолькавыя тарты. На колькі частак трэба раздзяліць кожны торт, каб усе атрымалі па кавалачку торта?

Як даведацца, плошча якой фігуры большая?





**1.** Рашы ўраўненні.

$c + 51 = 100$ $\quad$ $83 - x = 29$

$33 - y = 33$ $\quad$ $16 + b = 93$

**2.** З трох вагонаў выйшла 56 пасажыраў. Восьмая частка пасажыраў выйшла з другога вагона. Колькі пасажыраў выйшла з трэцяга вагона, калі з першага вагона выйшла 20 чалавек?

**1.** Параўнай.

74 кг – 39 кг ? 91 кг – 26 кг
27 кг + 53 кг ? 71 кг + 8 кг
55 кг + 44 кг ? 38 кг + 61 кг
48 кг – 26 кг ? 93 кг – 72 кг
90 мін – 1 г 10 мін ? 100 мін – 1 г
1 г 20 мін + 20 мін ? 10 мін + 80 мін

**2.** Знайдзі значэнні выразу $a \cdot 3$ пры $a$, роўным 0; 1; 3; 5; 7; 9.

**3.** Рашы ўраўненні.

| | |
|---|---|
| $90 - p = 9$ | $57 + k = 72$ |
| $x - 13 = 56$ | $y + 24 = 71$ |

**4.** Смоўж прапоўз 46 см ад васілька да званочка, а потым павярнуў назад і прапоўз у адваротным напрамку яшчэ 17 см. Колькі ўсяго сантыметраў прапоўз смоўж? Колькі сантыметраў засталося прапаўзці смаўжу да васілька?




**5.** Знайдзі $\frac{1}{4}$ частку перыметра квадрата са стараной 8 см.

**6.** Прывезлі 60 кг мукі. Муку расфасавалі ў 5 пакетаў па 9 кг. Колькі кілаграмаў мукі засталося?

7. Вызнач масу бочачкі з мёдам і слоіка з варэннем.




8. Рашы задачу, выкарыстоўваючы адказы да задання 7. У Віні-Пуха 8 бочачак з мёдам. Іх у 2 разы больш, чым слоікаў з варэннем. Колькі кілаграмаў мёду і варэння ў Віні-Пуха?

9. Якая фігура мае большую плошчу?







1. Знайдзі значэнні выразаў $c \cdot 1$ і $c \cdot 0$, калі $c$ роўна 2; 4; 6; 8.

2. Перыметр прамавугольніка 36 см. Шырыня прамавугольніка складае $\frac{1}{9}$ частку яго перыметра. Якая шырыня прамавугольніка?



Знайдзі значэнні выразаў. Растлумач.

| | |
|---|---|
| $1 \cdot 8 = 8$ | $1 \cdot 15 = 15$ |
| $8 : 1 = ?$ | $15 : 1 = ?$ |
| $8 : 8 = ?$ | $15 : 15 = ?$ |

Пры дзяленні ліку на 1 атрымліваецца лік, які дзялілі.

$a : 1 = a$

Пры дзяленні ліку на гэты ж лік атрымліваецца 1.

$a : a = 1$

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

| | | |
|---|---|---|
| $4 \cdot 1$ | $29 \cdot 1$ | $6 \cdot 1 : 1$ |
| $4 : 4$ | $29 : 1$ | $9 : 1 \cdot 1$ |
| $4 : 1$ | $29 : 29$ | $7 : 1 \cdot 0$ |

**2.** Кожны з лікаў 8, 16, 24, 32, 36 паменшы ў 4 разы, а рэзультат павяліч на 50.

**3.** Запішы ў слупок і вылічы. Выканай праверку.

79 – 16 7 + 36 81 – 28 31 + 54 + 9

**4.** 1 Састаў выраз і знайдзі яго значэнне.
Да ліку 29 дадалі 20.




2 Састаў ураўненне.
Да ліку 29 дадалі невядомы лік і атрымалі 49.




Чым падобныя запісы? Чым яны адрозніваюцца?

5. У пяці каробках 30 алоўкаў, пароўну ў кожнай. У адну з каробак паклалі яшчэ 2 алоўкі. Колькі алоўкаў стала ў гэтай каробцы? Колькі алоўкаў стала ва ўсіх каробках?

6. Тату 35 гадоў. Тата ў 5 разоў старэйшы за сына. На колькі гадоў тата старэйшы за сына? На колькі гадоў тата будзе старэйшы за сына праз 10 гадоў?

7. Складзі і рашы задачу. Складзі адваротныя задачы.




8. Ці можна з такіх жоўтых фігур скласці такія блакітныя фігуры?





Чаму роўная дзель лікаў 99 і 1? Дзель лікаў 100 і 100?


1. Знайдзі значэнні выразаў.
54 : (9 : 1)  3 · 7 · 0  80 : 80 + (21 + 7)

2. У майстэрні 50 рабочых. Механікаў 36, слесараў у 4 разы менш, чым механікаў. Астатнія рабочыя — электрыкі. Колькі электрыкаў у майстэрні?



Знайдзі значэнні выразаў. Растлумач.

| | | |
|---|---|---|
| $\underline{0 \cdot 6 = 0}$ | $\underline{0 \cdot 9 = 0}$ | $\underline{0 \cdot 15 = 0}$ |
| $0 : 6 = 0$ | $0 : 9 =$ ? | $0 : 15 =$ ? |



Каб падзяліць 0 на 6, трэба знайсці лік, які пры множанні на 6 дасць 0. Такі лік толькі адзін — гэта 0.

Пры дзяленні ліку 0 на іншы лік атрымаецца 0.

$$0 : a = 0$$

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

| | | | |
|---|---|---|---|
| $25 \cdot 0$ | $1 \cdot 10$ | $0 : 27$ | $1 \cdot 8 \cdot 6$ |
| $0 \cdot 44$ | $19 \cdot 1$ | $0 : 35$ | $49 : 7 : 1$ |





Дзяліць на 0 нельга!

$\cancel{a : 0}$

**2.** Выберы выразы, у якіх нельга знайсці значэнні. Растлумач.

| | |
|---|---|
| $15 + 0 : 4 + 80$ | $0 : 17 + 18 : 18$ |
| $29 : (10 - 2 \cdot 5)$ | $33 + 45 : (5 \cdot 0)$ |

**3.** Параўнай.

| | |
|---|---|
| 15 ? $15 \cdot 1$ | $15 + 1$ ? $1 \cdot 15$ |
| 15 ? $15 \cdot 0$ | $0 + 15$ ? $0 \cdot 15$ |

**4.** Састаў правільныя роўнасці і няроўнасці, выкарыстоўваючы выразы:

$5 \cdot 6$ $29 + 1$ $42 - 11$ $6 \cdot 5$

**5.** Дапоўні ўмову, складзі пытанне і рашы задачу.
На спаборніцтвах двум вучням трэба праплыць па … м. Адзін ужо праплыў … м, а другі праплыў на … м больш.

**6.** Семдзесят два кілаграмы бульбы расфасавалі ў васьмікілаграмовыя пакеты. Пяць пакетаў бульбы прадалі. Колькі пакетаў бульбы засталося?

**7.** Выберы схему. Рашы задачу.
Вольга вышэйшая за Кацю на 6 см. Каця вышэйшая за Лену на 4 см. Параўнай рост Вольгі і Лены.







**8.** На колькі павялічыцца перыметр квадрата, калі яго старану павялічыць на 1 см; 2 см; 3 см?


Знайдзі дзель лікаў 0 і 8.


**1.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.
$24 \cdot ? = 24$ $65 \cdot ? = 0$ $? : 10 = 0$

**2.** Было 8 кг грэчкі, а рысу — у 3 разы больш. Грэчку і рыс рассыпалі ў пакеты па 4 кг. Колькі ўсяго пакетаў з грэчкай і рысам атрымалася?



Растлумач вылічэнні.

10 · 3 = 30
3 · 10 = 30
30 : 10 = 3
30 : 3 = 10





**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 10 · 5 | 50 : 10 | 10 · 8 | 80 : 10 |
| 5 · 10 | 50 : 5 | 8 · 10 | 80 : 8 |

**2.** Параўнай.

14 · 0 ? 14 · 1
24 : 24 ? 24 : 1
10 · 3 ? 10 + 10 + 10 + 10
10 + 10 + 10 + 10 + 10 ? 5 · 10

30 · 1 ? 30 : 1
0 · 12 ? 12 · 0

**3.** Запішы тры лікі, якія дзеляцца і на 2, і на 3.

Запішы два лікі, якія дзеляцца і на 3, і на 4.

Запішы два лікі, якія дзеляцца і на 2, і на 5.

**4.** Састаў і рашы ўраўненні.

- Да ліку 64 дадалі невядомы лік і атрымалі 74.
- Невядомы лік паменшылі на 24 і атрымалі 30.
- Сто паменшылі на невядомы лік і атрымалі 0.

**5.** Растлумач, што абазначаюць выразы.
Купілі 5 кароткіх шлангаў, даўжынёй па 2 м кожны, і 8 доўгіх шлангаў, па 5 м кожны.

5 + 8 2 · 5 5 – 2 5 · 8 8 – 5

**6.** Гульня ў баскетбол доўжыцца 4 таймы па 10 мін. Спартсмены ўжо гуляюць $\frac{1}{5}$ частку ўсяго часу гульні. Колькі мінут ім засталося гуляць?

**7.** Хто цяжэйшы? На колькі кілаграмаў цяжэйшы?




**8.** Марына маладзейшая за Наташу, але старэйшая за Сяргея. Саша старэйшы за Наташу. Хто самы старэйшы? Хто маладзейшы?

Павяліч лік 10 у 7 разоў. Паменшы лік 70 у 10 разоў.



**1.** Знайдзі значэнні выразаў.
9 · 4 : 6 · 10 10 · (54 : 9 : 2) 4 · (0 + 9)

**2.** Усе стораны трохвугольніка маюць даўжыню 12 см. Кожную старану паменшылі на 2 см. Знайдзі перыметр атрыманага трохвугольніка.



Вымерай старану квадрата.



Плошча гэтага квадрата — **адзін квадратны сантыметр**.

**$1\ см^2$**



З дапамогай квадрата такой плошчы вымяраюць і параўноўваюць плошчы іншых фігур.

**1.** Колькі квадратных сантыметраў змяшчаецца на паверхні кожнага прамавугольніка? Плошча якой фігуры большая?







**2.** Павяліч у 10 разоў лікі: 8; 0; 1; 7; 4; 10.
Паменшы ў 10 разоў лікі: 70; 50; 10; 0; 90; 100.

**3.** Рашы ўраўненні.

| | |
|---|---|
| $34 - p = 7$ | $41 + k = 70$ |
| $x - 18 = 20$ | $y + 72 = 100$ |

**4.** Было 60 сшыткаў. Кожнаму вучню далі па 5 сшыткаў у клетку і па 3 сшыткі ў лінейку. Засталося 4 сшыткі. Колькі было вучняў?

**5.** Складзі задачу. Складзі адваротныя задачы.

| Расход тканіны на 1 сукенку (м) | Колькасць сукенак (шт.) | Агульны расход тканіны (м) |
|---|---|---|
| ? | 6 | 24 |

**6.** Начарці востры вугал *KLM*. Правядзі прамую так, каб атрымаўся тупавугольны трохвугольнік.

**7.** Пеця склаў з кубікаў фігуру і сфатаграфаваў яе. Знайдзі фатаграфію, якая магла атрымацца.




Плошча якой фігуры роўная 1 см$^2$?





**1.** Знайдзі значэнні выразаў.
14 : 14 · 9 8 · 1 : 2 · 10 5 · 8 : 10

**2.** Турысты чвэрць часу паходу ішлі пяшком, а астатні час плылі на байдарках. Увесь паход доўжыўся 20 дзён. Колькі дзён турысты ішлі пяшком?





Пеця начарціў на празрыстай плёнцы фігуру і раздзяліў яе на квадратныя сантыметры. У яго атрымалася ПАЛЕТКА.



З дапамогай палеткі зручна вымяраць і параўноўваць плошчы розных фігур. Для гэтага палетку трэба накласці на фігуру і падлічыць колькасць квадратных сантыметраў.

Колькі квадратных сантыметраў змяшчаецца на паверхні квадрата? Колькі квадратных сантыметраў змяшчаецца на паверхні прамавугольніка?





Плошча квадрата роўная 4 см$^2$.
Плошча прамавугольніка роўная ... см$^2$.

**1.** Знайдзі плошчы фігур з дапамогай палеткі.







**2.** Знайдзі значэнні выразу $a \cdot 7$, калі $a$ роўна 0; 1; 3; 5; 7; 10.

**3.** Састаў правільныя роўнасці і няроўнасці, выкарыстоўваючы выразы:

7 · 8 | 100 – 68 | 28 + 28 | 4 · 8

**4.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

4 · ? = 40  13 · ? = 0  ? : 9 = 10  ? : 7 = 1

**5.** Майстар робіць 15 дэталей у гадзіну, а яго вучань — на 6 дэталей менш. Колькі дэталей яны робяць разам за 2 гадзіны?

**6.** Складзі і рашы задачы.







? Параўнай з дапамогай палеткі плошчы фігур.







**1.** Устаў знакі, каб роўнасці былі правільныя.

2 ? 1 = 2  0 ? 6 = 6  8 ? 8 = 0

1 ? 1 = 2  7 ? 0 = 0  8 ? 8 = 1

**2.** Маса сліў роўная $\frac{1}{4}$ частцы масы вішань. Знайдзі масу вішань, калі маса сліў 4 кг.



$x \cdot 6 = 48$
$x = 48 : 6$
$\underline{x = 8}$
$8 \cdot 6 = 48$
$48 = 48$




Разважай так:
Невядомы лік $x$ — множнік.
Каб знайсці невядомы множнік, трэба здабытак падзяліць на вядомы множнік. Дзялю 48 на 6, атрымліваю 8.

$y : 3 = 7$
$y = 7 \cdot 3$
$\underline{y = 21}$
$21 : 3 = 7$
$7 = 7$




Разважай так:
Невядомы лік $y$ — дзялімае.
Каб знайсці невядомае ..., трэба дзель памножыць на ... .
Множу 7 на ..., атрымліваю ... .

**1.** Рашы ўраўненні.
$5 \cdot x = 35$ $y : 6 = 8$ $64 : a = 8$

**2.** Пастаў дужкі так, каб роўнасці былі правільныя. Адзнач роўнасць, у якой дужкі можна не ставіць.
$25 + 16 - 4 = 37$ $43 - 20 - 7 = 30$

**3.** Параўнай.

10 дм ? 2 дм + 70 см

1 м ? 5 дм + 5 дм

1 м ? 71 см + 19 см

6 дм ? 85 см – 35 см

**4.** У наборах было 36 піражных. З аднаго набору з'елі 2 піражныя, што ў 3 разы менш, чым з'елі з другога набору. Колькі піражных засталося?

**5.** Плошча якой фігуры большая? Параўнай з дапамогай палеткі.







**6.** Выберы лікі, якімі можна дапоўніць умову задачы. Рашы задачу.

У паходзе тата нёс рукзак масай … кг. Мамін рукзак быў у … разы лягчэйшы за татаў. Маса рукзака Пеці была роўна … кг. Знайдзі масу ўсіх рукзакоў.

24   4   3   100   63



Як знайсці невядомы множнік? Невядомае дзялімае? Невядомы дзельнік?



**1.** Рашы ўраўненні.

$48 : x = 6$    $x \cdot 6 = 36$    $x : 7 = 4$

**2.** У бочцы 50 л вады. Для паліву агарода ўзялі 4 аднолькавыя вядры вады і яшчэ 4 л вады. Пасля гэтага ў бочцы засталося 14 л вады. Колькі літраў вады змяшчаецца ў адным вядры?

**1.** Рашы ўраўненні.

$63 + x = 80$ $\quad$ $54 - x = 28$ $\quad$ $n \cdot 6 = 54$

$8 \cdot n = 32$ $\quad$ $72 : t = 9$ $\quad$ $t : 7 = 10$

$m - 12 = 88$ $\quad$ $m + 27 = 50$ $\quad$ $4 \cdot y = 40$

**2.** Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.

| $a$ | 49 | 70 | 60 | 18 | 10 | 0 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| $b$ | 7 | 7 | 10 | 3 | 10 | 5 |
| $a : b$ | ? | ? | ? | ? | ? | ? |

**3.** Вылічы. Выканай праверку.

54 + 31 $\quad$ 48 + 7 $\quad$ 66 + 23

51 – 29 $\quad$ 67 – 22 $\quad$ 55 – 38

**4.** Устаў прапушчаныя знакі «+», «–» або «·». Запішы атрыманыя ўраўненні. Рашы іх.

$x$ ? $5 = 35$ $\quad$ $y$ ? $6 = 54$ $\quad$ $x$ ? $4 = 36$

**5.** Выберы схему. Рашы задачу.

У Кірыла ў 5 разоў больш алоўкаў, чым у Вадзіма. У Вадзіма на 20 алоўкаў менш, чым у Кірыла. Колькі алоўкаў у Кірыла?



**6.** Маме 35 гадоў. Мама на 29 гадоў маладзейшая за бабулю. Колькі гадоў унуку, калі яго ўзрост складае $\frac{1}{8}$ частку ўзросту бабулі?

**7.** Начарці такія ж фігуры. Вызнач іх плошчу. Плошча якой фігуры большая?




**8.** Маса грушы роўная масе дзвюх сліў. На адной талерцы вагаў груша і сліва. Колькі сліў на другой талерцы вагаў, калі вагі ў раўнавазе?

**9.** Састаў з лічбаў 2, 5, 7 такія двухзначныя лікі, каб лічбы ў іх не паўтараліся.

**?** Назаві лік, у якім колькасць адзінак на 5 меншая, чым колькасць дзясяткаў.



**1.** Вылічы.

84 + 12 · 1 — 2 г 18 мін – 1 г 9 мін

100 – 0 : 7 — 6 г 6 мін + 2 г 30 мін

**2.** На дзвюх паліцах было 47 кніг. Калі з адной паліцы знялі 18 кніг, на ёй засталося ў 3 разы менш кніг, чым знялі. Колькі кніг было на кожнай паліцы?



| Множнік | | Множнік | | Здабытак |
|---|---|---|---|---|
| 7 | · | 5 | = | 35 |
| 35 | : | 5 | = | 7 |
| 35 | : | 7 | = | 5 |



Каб праверыць, ці правільна выканана множанне, разважай так:

1. Калі здабытак двух лікаў падзяліць на адзін з множнікаў, атрымаецца другі множнік.
2. Дзялю здабытак 35 на адзін з множнікаў ... . Атрымліваю другі множнік ... .
3. Значыць, множанне выканана правільна.

**1.** Вылічы. Выканай праверку.

4 · 8    9 · 5    18 · 1    10 · 3

7 · 2    6 · 8    1 · 25    9 · 10

**2.** Знайдзі значэнні выразаў.

61 – 24 : 4 + 12    2 · (28 – 19)

12 : 3 · 7 + 2    (14 + 35) : 7

7 + 3 · 3 – 24    18 : 2 + 27 : 3

**3.** Састаў і рашы ўраўненні.

- Да ліку 34 дадалі невядомы лік і атрымалі 83.
- Невядомы лік паменшылі на 12 і атрымалі 27.

**4.** Параўнай.

58 кг – 27 кг ? 75 кг – 44 кг

39 кг + 14 кг ? 34 кг + 18 кг

80 мін – 1 г 20 мін ? 60 мін – 1 г

**5.** У садзе сабралі 92 кг агрэсту, чорных парэчак і малін. Агрэсту сабралі 48 кг. Маса сабраных малін склала $\frac{1}{6}$ частку масы агрэсту. Колькі кілаграмаў чорных парэчак сабралі?

**6.** Пабудуй схему. Рашы задачу.
У спальным пакоі дзіцячага сада ўздоўж сцяны стаіць 6 ложкаў. Кожны ложак шырынёй 5 дм. Даўжыня сцяны 4 м 5 дм. Паміж ложкамі аднолькавыя прамежкі. Якой будзе адлегласць паміж ложкамі?

**7.** Плошча якой фігуры большая? Правер з дапамогай палеткі.



**8.** Як пры дапамозе рычажных вагаў раздзяліць 12 кг цукерак на дзве часткі — 3 кг і 9 кг?



**?** Пеця пры множанні 8 і 7 атрымаў 35. Правер, ці не памыліўся Пеця.



**1.** Вылічы. Выканай праверку.
3 · 5 7 · 8 10 · 2 1 · 3

**2.** З 40 м сіняй і 46 м жоўтай тканіны вырашылі пашыць двухкаляровыя палаткі. На палатку расходуецца 4 м тканіны. Усяго пашылі 10 палатак. Колькі метраў тканіны засталося?



| Дзялімае | | Дзельнік | | Дзель |
|---|---|---|---|---|
| 35 | : | 5 | = | 7 |
| 7 | · | 5 | = | 35 |



Каб праверыць, ці правільна выканана дзяленне, разважай так:
1. Калі дзель двух лікаў памножыць на дзельнік, атрымаецца дзялімае.
2. Множу дзель 7 на дзельнік 5.
   Атрымліваю дзялімае 35.
3. Значыць, дзяленне выканана правільна.

**1.** Вылічы. Выканай праверку.

15 : 3 48 : 6 40 : 4 27 : 1
4 : 2 42 : 7 50 : 10 33 : 33

**2.** Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Складаемае | 10 · 3 | 20 · 1 | 45 : 9 | 36 : 6 |
| Складаемае | 16 : 4 | 20 : 5 | 20 · 1 | 48 : 8 |

**3.** Выберы схему. Рашы задачу.
У Дзяніса ў 4 разы больш фламастараў, чым у Валі. Усяго ў дзяцей 40 фламастараў. Колькі фламастараў у кожнага?









**4.** Рашы ўраўненні.

$m : 3 = 6$　　$n + 38 = 45$　　$y \cdot 4 = 12$

$4 \cdot y = 28$　　$72 : m = 9$　　$93 - n = 14$

**5.** У горадзе *A* было 68 магазінаў, у горадзе *B* на 12 магазінаў больш. Праз год колькасць магазінаў у горадзе *A* павялічылася на 3, а ў горадзе *B* паменшылася на 3. У якім горадзе стала праз год больш магазінаў? На колькі больш?

**6.** Змяні ва ўмове папярэдняй задачы слова «паменшылася» на слова «павялічылася». Падумай, якім будзе адказ новай задачы. Правер з дапамогай вылічэнняў.

**7.** Іра прыдумала загадку: спачатку яна два лікі перамножыла, а затым большы лік падзяліла на меншы і атрымала роўныя рэзультаты. Якія лікі магла загадаць Іра?

Пеця пры дзяленні 56 на 7 атрымаў 8. Правер, ці не памыліўся Пеця.



**1.** Вылічы. Выканай праверку.

21 : 3　　49 : 7　　70 : 7　　10 : 1

**2.** Перыметр прамавугольніка *ABCD* 40 дм. Даўжыня прамавугольніка 12 дм. Знайдзі шырыню прамавугольніка.



| Дзялімае | | Дзельнік | | Дзель |
|---|---|---|---|---|
| 35 | : | 5 | = | 7 |
| 35 | : | 7 | = | 5 |



Каб праверыць, ці правільна выканана дзяленне, разважай так:

1. Я ведаю, што, калі дзялімае падзяліць на дзель, атрымаецца дзельнік.
2. Дзялю дзялімае 35 на дзель 7.
   Атрымліваю дзельнік 5.
3. Значыць, дзяленне выканана правільна.

**1.** Вылічы. Выканай праверку.

18 : 2    24 : 6    60 : 6    9 : 1
8 : 4    14 : 7    80 : 10    8 : 8

**2.** Састаў правільныя роўнасці і няроўнасці, выкарыстоўваючы выразы:

$8 \cdot 2 : 4$    $(16 - 12) \cdot 3$    $(22 + 10) : 8$    $2 \cdot 6 : 1$

**3.** Запішы правільныя роўнасці.

| $a$ | 28 | ? | 19 | ? | 0 | ? |
|---|---|---|---|---|---|---|
| $b$ | ? | 13 | ? | 0 | ? | 1 |
| $a + b$ | 64 | 32 | 48 | 99 | 51 | 77 |

**4.** З аднаго кавалка дроту зрабілі 9 вырабаў і яшчэ застаўся кавалак дроту даўжынёй 15 см. Якой даўжыні быў увесь кавалак дроту, калі на адзін выраб ідзе кавалак дроту даўжынёй 5 см?

**5.** У адной каробцы алоўкаў на 4 больш, чым у другой. Усяго ў дзвюх каробках 20 алоўкаў. Колькі алоўкаў у кожнай каробцы?

**6.** Складзі і рашы задачу.

| | Маса 1 каробкі (кг) | Колькасць каробак (шт.) | Маса ўсіх каробак (кг) |
|---|---|---|---|
| I | 6 | 10 | ? |
| II | 6 | 3 | ? |

На ? больш

**7.** Сума ўзростаў трох сябровак 26 гадоў. Колькі гадоў будзе ім разам праз 2 гады? 4 гады?



Пеця пры дзяленні 45 на 9 атрымаў 6. Правер, ці не памыліўся Пеця.



**1.** Вылічы. Выканай праверку.
12 : 6　　18 : 3　　20 : 2　　5 : 5

**2.** Спартсмены выйгралі 5 залатых медалёў, сярэбраных — на 13 больш, чым залатых, а бронзавых — у 2 разы менш, чым сярэбраных. Колькі ўсяго медалёў выйгралі спартсмены?

**1.** Вылічы. Выканай праверку.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 9 · 7 | 4 · 5 | 3 · 8 | 30 · 1 |
| 30 : 5 | 40 : 8 | 20 : 4 | 70 : 7 |

**2.** Запішы выразы і знайдзі іх значэнні.

- Суму лікаў 34 і 46 падзяліць на 10.
- Да ліку 34 дадаць здабытак лікаў 8 і 7.
- Ад ліку 80 адняць дзель лікаў 45 і 9.
- Да дзелі лікаў 42 і 6 дадаць 93.

**3.** Знайдзі значэнні выразаў.

| | | |
|---|---|---|
| (39 + 25) : 8 | 6 · (18 – 10) | 36 : (5 + 4) |
| 40 + 5 · 4 | 5 · 4 + 6 · 7 | 10 · 7 – 3 · 8 |
| 72 + 0 · 4 | 33 – 0 : 5 | 14 · 0 + 12 · 1 |

**4.** Параўнай.

| | |
|---|---|
| 1 · 22 ? 22 : 1 | 8 · 1 ? 8 : 8 |
| 7 · 7 ? 7 · 6 | 6 : 3 + 12 ? 6 : 2 + 12 |

**5.** Вылічы. Выканай праверку.

| | | |
|---|---|---|
| 64 + 31 | 78 + 7 | 36 + 23 |
| 71 – 29 | 97 – 22 | 85 – 38 |

**6.** Састаў выразы па схеме. Вылічы.






**7.** Знайдзі значэнні выразаў.

69 – 28 : 4 – 12 2 · (21 – 19) 18 : 3 · 7 + 2
21 + 3 · 9 – 24 (14 + 35) : 7 10 · 2 + 21 : 3

**8.** Падбяры значэнні пераменных, пры якіх роўнасці будуць правільныя.

$x + 19 = 100$ $5 \cdot a = 40$ $32 : x = 4$
$x - 23 = 57$ $b \cdot 7 = 49$ $36 : x = 9$
$100 - x = 3$ $c : 6 = 5$ $21 + x = 70$

**9.** Рашы ўраўненні.

$5 \cdot x = 45$ $64 = x \cdot 8$ $10 + a = 20$
$x \cdot 3 = 24$ $16 = 4 \cdot x$ $a + 32 = 40$
$y : 10 = 2$ $3 = 30 : y$ $29 - b = 15$

**10.** Састаў і рашы ўраўненні.

Да ліку 25 дадалі невядомы лік і атрымалі 57.

Невядомы лік паменшылі на 18 і атрымалі 52.

**11.** Знайдзі значэнні выразаў.

7 · 1 35 · 1 12 · 1 : 1
7 : 7 35 : 1 20 : 1 · 1
7 : 1 35 : 35 24 : 24 · 0

**12.** Знайдзі значэнні выразаў.

10 · 4 40 : 4 40 : 10 4 · 10
7 · 10 10 · 7 70 : 70 70 : 7

**13.** Састаў правільныя роўнасці і няроўнасці, выкарыстоўваючы выразы:

$4 \cdot 9$ $100 - 36$ $18 + 18$ $8 \cdot 8$

**14.** Знайдзі значэнні выразаў.

| $c$ | 3 | 5 | 6 | 8 | 1 |
|---|---|---|---|---|---|
| $1 + c \cdot 3$ | ? | ? | ? | ? | ? |
| $5 \cdot c - 1$ | ? | ? | ? | ? | ? |

**15.** Начарці ў сшытку адрэзак даўжынёй 8 см. Начарці адрэзкі, роўныя:

$\frac{1}{2}$ гэтага адрэзка; $\frac{1}{4}$ гэтага адрэзка; $\frac{1}{8}$ гэтага адрэзка.

**16.** Знайдзі $\frac{1}{4}$ частку ад 20 кг; 28 кг; 32 кг; 36 кг.

**17.** Выразі ў мінутах.

1 г 16 мін 1 г 49 мін 1 г 10 мін 1 г 30 мін

Выразі ў гадзінах і мінутах.

76 мін 88 мін 61 мін 90 мін

**18.** Параўнай.

68 кг – 27 кг ? 85 кг – 34 кг
49 кг + 34 кг ? 91 кг – 9 кг
80 мін – 1 г 10 мін ? 60 мін – 1 г
42 мін + 53 мін ? 1 г + 35 мін

**19.** Купілі 5 пакетаў з бульбай і 4 такія ж пакеты з цыбуляй. Якая маса аднаго пакета, калі ўсяго купілі 54 кг агародніны?

**20.** Калі з актавай залы выйшла 27 вучняў, у ёй засталося 50 вучняў. Колькі вучняў было ў актавай зале?

**21.** Шэсцьдзясят тры літры вады разлілі ў дзевяць вёдзер аднолькавай ёмістасці. Якая ёмістасць аднаго вядра?

**22.** Міша з'еў $\frac{1}{4}$ частку ўсіх вішань, што былі ў вазе. Колькі вішань ён з'еў, калі ў вазе было 36 вішань?

**23.** Дапоўні задачу значэннямі даўжыні, якія падыходзяць. Рашы задачу.
Дарожка ідзе ад дома да калодзежа, ад калодзежа да альтанкі, ад альтанкі да дома. Даўжыня дарожкі ад дома да калодзежа …, ад калодзежа да альтанкі …, ад дома да альтанкі … . Якая даўжыня ўсёй дарожкі?



1 м | 20 м | 40 см | 32 м | 5 дм | 25 м

**24.** Сыну 9 гадоў. Мама ў 4 разы старэйшая за сына і на 24 гады маладзейшая за бабулю. Колькі гадоў бабулі?

**25.** Складзі і рашы задачу.

| | Літар у адным слове | Колькасць слоў | Усяго літар |
|---|---|---|---|
| **1** | 3 | 5 | ? |
| **2** | 6 | 5 | ? |

На ? больш

**26.** Складзі і рашы задачы.







**27.** Растлумач выразы.
Вучні пятага класа гулялі ў футбол, а вучні чацвёртага класа — у баскетбол. Гульня ў футбол доўжыцца 2 таймы па $a$ мін, а ў баскетбол — 4 таймы па $c$ мін.

$a \cdot 2$ $c \cdot 4$ $a - c$ $a \cdot 2 + c \cdot 4$

**28.** Які час паказвалі гадзіннікі 1 г назад? Які час пакажуць гадзіннікі праз 10 мін?






**29.** Выберы схему. Рашы задачу.
У наборы 36 пірожных. Адна шостая частка ўсіх пірожных — эклеры. Колькі эклераў у наборы?













**30.** Ці правільна працуюць вагі?







**31.** Начарці ломаную з 4 звёнаў. Абазнач яе лацінскімі літарамі. Прачытай назву.

**32.** Знайдзі даўжыню ломанай, калі даўжыня звяна *AB* — 4 см, звяна *BC* — 18 см, звяна *CD* — 2 дм 9 см. Прачытай назву гэтай ломанай.

**33.** Знайдзі шостую частку перыметра гэтых фігур.





**34.** Назаві трохвугольнікі, іх вяршыні, стораны і вуглы.



















**35.** Параўнай плошчы фігур.



**36.** Колькі клетак яшчэ трэба зафарбаваць у кожнай фігуры, каб атрымаліся квадраты?







## Гэта цікава!

### Старыя меры масы

Шмат гадоў таму для таго, каб параўнаць і вымераць масы невялікіх прадметаў, людзі выкарыстоўвалі іншыя прадметы, якія мелі вельмі маленькія і амаль аднолькавыя масы — напрыклад зерне пшаніцы, ячменю, рысу і інш. Паступовa з'явілася агульная назва для такіх маленькіх мер масы — ***гран***. Слова «гран» паходзіць ад лацінскага слова *granum*, што значыць «зерне», «крупінка». Такая маленькая мера масы раўнялася масе сярэдняга ячменнага зярнятка і выкарыстоўвалася ў аптэкарскай справе для ўказання дазіроўкі лекаў.



Для вымярэння мас вялікіх прадметаў выкарыстоўваліся больш буйныя меры масы — напрыклад *фунт* і *пуд*.

Мера масы ***фунт*** была вельмі папулярная ў розных краінах Еўропы і ў Амерыцы. Пакуль краіны не дамовіліся паміж сабой, выкарыстоўваліся неаднолькавыя па масе фунты — напрыклад, былі рускія фунты, партугальскія фунты, дацкія фунты, французскія фунты і г. д. Часцей за ўсё значэнне фунта было крыху меншае за палову аднаго кілаграма.




Мера масы ***пуд*** выкарыстоўвалася ў Вялікім Княстве Літоўскім і ў Расіі. Яна раўнялася 40 *фунтам*. Гэта старая мера масы адпавядае прыкладна 16 кг. На малюнку ты бачыш пудовую гіру, маса якой 16 кг. Такую гіру і зараз выкарыстоўваюць спартсмены на трэніроўках.

## Кілаграм

Карыстацца мерамі масы, якія прымяняліся ў розных краінах, стала нязручна, калі паміж жыхарамі гэтых краін пачаліся рэгулярныя зносіны і гандаль. З'явілася неабходнасць у стварэнні агульнай для розных краін сістэмы мер масы.




Адной з такіх мер масы стаў ***кілаграм***, дакладны ўзор якога быў зроблены людзьмі са спецыяльнага сплаву металаў. Гэты ўзор захоўваецца ў Францыі, недалёка ад Парыжа. Яго ты бачыш на фатаграфіі. Існуюць і іншыя агульныя для розных краін меры масы, з якімі ты пазнаёмішся пазней: *грам, цэнтнер, тона*.

## Старыя меры плошчы

Меры плошчы з'явіліся для таго, каб можна было вымяраць і параўноўваць паміж сабой розныя ўчасткі зямлі. Іх нават і называлі так: «зямельныя меры».

У даўнія часы меры плошчы былі недакладныя. Напрыклад, у Еўропе і Вялікім Княстве Літоўскім выкарыстоўвалася зямельная мера, якая называлася ***морг***. Гэта слова паходзіць ад нямецкага слова Morgen, што значыць «раніца». Морг абазначаў плошчу ўчастка зямлі, якую адзін чалавек мог узараць адным канём з ранку да паўдня. Таму велічыня морга ў розных краінах Еўропы была неаднолькавая.

На Русі папулярнай мерай плошчы была ***дзесяціна***, якая прыкладна была роўная двум *моргам*.

Пазней з'явіліся меры плошчы ў форме квадрата. Іх сталі называць «квадратныя меры». Напрыклад, выкарыстоўвалася такая мера плошчы, як ***квадратны аршын*** (плошча квадрата з даўжынёй стараны, прыкладна роўнай даўжыні рукі чалавека). Выкарыстоўваць квадратныя меры плошчы было зручней, і вымярэнні сталі крыху больш дакладнымі.



## Квадратны сантыметр

Больш за 200 гадоў таму ў Францыі з'явіліся дакладныя меры даўжыні (сантыметр, метр і інш.), якія прыйшлі на змену старым мерам даўжыні — такім, напрыклад, як пядзя і локаць. Гэтыя меры даўжыні пачалі прымяняцца ў многіх краінах.




Разам з гэтай агульнай сістэмай мер з'явілася і сістэма квадратных мер плошчы. Квадратныя меры пачалі абазначаць плошчы квадратаў з даўжынямі старон, выражаных у агульнапрынятых мерах даўжыні. Напрыклад, плошча квадрата з даўжынёй у адзін сантыметр (1 см) абазначае меру плошчы ***адзін квадратны сантыметр*** (1 см$^2$).

Падумай, як можа называцца квадратная мера плошчы, якую абазначае квадрат з даўжынёй стараны 1м; 1 дм.

Існуюць і іншыя квадратныя меры, з якімі ты пазнаёмішся пазней: *квадратны міліметр, квадратны дэцыметр, квадратны метр, квадратны кіламетр.*

Падумай, чаму роўная даўжыня стараны кожнага з квадратаў з названымі плошчамі.

**Мураўёва, Г. Л.**
М91 Матэматыка : вучэб. дапаможнік для 3-га кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання : у 2 ч. / Г. Л. Мураўёва, М. А. Урбан. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2013. — Ч. 1. — 136 с. : іл.
ISBN 978-985-559-227-4.

**УДК 51(075.2=161.1)**
**ББК 22.1я71**

Вучэбнае выданне

**Мураўёва** Галіна Леанідаўна
**Урбан** Марыя Анатольеўна

# МАТЭМАТЫКА

Вучэбны дапаможнік для 3 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 1

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Л. Ф. Леўкіна*
Мастакі *І. А. Усенка, Ю. М. Галавейка*
Мастацкі рэдактар *І. А. Усенка*
Камп’ютарная вёрстка *Ю. М. Галавейкі*
Карэктары *К. В. Шобік, Н. М. Мамчыц*

Падпісана ў друк 22.05.2013. Фармат 70×90 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 9,95. Ул.-выд. арк. 4,19 + 0,47 форз.
Тыраж 7 700 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛИ № 02330/0494469 ад 08.04.2009. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Якуба Коласа».
ЛП №02330/0150496 ад 11.03.2009. Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск

